
БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 46 (13578)

9 —15 лістапада 1992 года

Кошт 3 рублі.


Ёсць пытанне! Куды хавацца, калі на галаву паляцяць бомбы?

3

НОТНЫ АРКУШ

7-10



ГІСТАРЫЁГРАФ "ПОЛАЦКАЯ ВАЙНА"
Іван Жахлівы пад сценамі Полацка. Пісьменнік Уладзімір АРЛОЎ расстаўляе кропкі над "і" ў забытай гісторыі ўзаемаадносін Расіі і Вялікага княства Літоўскага.

6

АДАМ І ЕВА
Калі спакушае начальнік...



12

ХАТНІ ЭКРАН
Праграма тэлебачання на тыдзень

15

# НАГАДВАЕМ, ШТО ДА ЗАКАНЧЭННЯ ПАДПІСКІ НА "ЧЫРВОНУЮ ЗМЕНУ" ЗАСТАЛОСЯ ДВА ДНІ! СПЯШАЙЦЕСЯ!

## Наш індэкс 63129.

*Падпісны кошт :*

*на паўгоддзе — 108 руб.*

*на 3 месяцы — 54 руб.*

*на месяц — 18 руб.*





## Мы адкажам на ўсе вашы пытанні. Звяртайцеся па тэлефоне 32-13-04



### КАЛГАСНЫ РЫНАК ВЕРНЕЦЦА. ТОЛЬКІ КАЛІ?

*"Колькі ў Мінску калгасных рынкаў, і што будзе з магазінам "Аўтамабілі", што на Партызанскім праспекце (дзе раней таксама быў калгасны рынак)?*

**В.Вільтоўскі, г.Мінск".**

У Мінску пакуль што толькі адзін калгасны рынак, у мікрараёне Чыжоўка. Што датычыць магазіна "Аўтамабілі" на Партызанскім праспекце, то, як паведаміў Уладзімір Іванавіч Лявонаў, галоўны архітэктар Заводскага раёна сталіцы, у перспектыве яго плануюць перанесці на вуліцу Машынабудаўнікоў, дзе будуецца аўтавазаўскі магазін. А на вызваленым месцы зноў з'явіцца калгасны рынак. Чакайце.




### ТЭЛЕВІЗАР? ТАННЫ? ТАКІХ НЯМА.

*"Чуў, што на "Гарызонце" рыхтуюцца да выпуску новыя тэлевізары (для людзей, якія знаходзяцца за рысай беднасці). Калі іх можна будзе набыць?*

**М.Янаеў, г.Магілёў".**

Хутчэй за ўсё ніколі. Як паведамілі на вытворчым аб'яднанні "Гарызонт", танных тэлевізараў няма і быць не можа. Да таго часу, пакуль Расія не знізіць цэны на паліва, энерганосьбіты, камплектуючыя дэталі. А чакаць гэтага ад нашых суседзяў не прыходзіцца, то і тэлевізары будуць дарагія (і будуць даражэць). Так што калі не набылі вы яго ў застойныя гады, то цяпер і ўвогуле кіньце усялякую надзею купіць запаветны блакітнаэкранны куфэрак.

### КУДЫ БУДЗЕМ ХАВАЦЦА?

*"Бамбасховішчы ўжо прадаюць розным камерцыйным структурам з аўкцыёна. Няўжо знікла неабходнасць у іх як у абаронных пабудовах?*

**В.Захілько, г.Мінск".**

"Не, не знікла",— паведамілі ў Мінскім гарадскім штабе грамадзянскай абароны. Аказваецца, усе бамбасховішчы горада на ступені сваёй надзейнасці падзяляюцца па 5 класаў. Бамбасховішчы 1—4 класаў знаходзяцца пад рознымі адміністрацыйнымі будынкамі, аб'ектамі народнай гаспадаркі і г.д. Пад жылымі дамамі знаходзяцца бамбасховішчы 5-га класа. Усе гэтыя абарончыя пабудовы функцыяніруюць і будуць функцыяніраваць. У некаторых з іх праводзіцца капрамонт, замена абсталявання. Пакуль рэспубліканскім урадам не было прынята ніякіх рашэнняў, бамбасховішчы дзейнічаюць згодна з патрабаваннямі, што прад'яўляліся грамадзянскай абароне яшчэ ў часы існавання СССР. Так што ў выпадку ядзернага нападзення адразу ўспамінайце заняткі па ГА ў школе і дзейнічайце так, як "вучыў вас ваенны кіраўнік. Памятаеце каманду "ўспышка злева!"? Усё астатняе — справа тэхнікі.

### ХОЧАЦЕ МАНСАРДУ? МОЖНА (ТОЛЬКІ ВЯЛІКУЮ).

*"Я з сям'ёй жыву на пятым паверсе "хрушчоўкі". Месца ў кватэры малавата, і таму хацеў бы прабіць столь і зрабіць на гарышчы мансарду. Ці можна?*

**Я.Пучынскі, г.Мінск".**

Як паведаміў Уладзімір Іванавіч Лявонаў, галоўны архітэктар Заводскага раёна г.Мінска, зрабіць мансарду можна. Але для гэтага неабходна звярнуцца ў жыллёва-эксплуатацыйную кантору раёна альбо па месцы жыхарства да начальніка ЖЭСа. Трэба заўважыць, што вам (калі ў вышэйназваных інстанцыях дадуць згоду) трэба будзе займаць усю плошчу гарышча (а не які-небудзь куточак).

### ДАПАМОГА ЁСЦЬ. ПРЫ НАЯЎНАСЦІ ДЗІЦЯЦІ.

*"Адкажыце, калі ласка, якая грашовая дапамога выплачваецца жанчынам, якія даглядаюць дзіця, ці даюць якія-небудзь грошы цяжарным жанчынам?*

**К.Саяпава, г.Маладзечна".**

Згодна з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 30 кастрычніка 1992 года № 658 "Аб памерах дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей" з 1 лістапада 1992 года ўведзены новыя памеры дапамог. Усе яны падзяляюцца на аднаразовыя і шматразовыя.

Аднаразовыя: 6000 рублёў — дапамога пры нараджэнні дзіцяці (у выпадку нараджэння двух і больш дзяцей дапамога выплачваецца на кожнае дзіця).

3000 рублёў — дапамога жанчыне, якая нарадзіла дзіця, калі яна стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці.

Штомесячныя дапамогі разлічаны на розныя катэгорыі грамадзян. Іх, дарэчы, больш дзесятка. Дадам толькі, што непрацуючая жанчына будзе атрымліваць дапамогу ў памеры мінімальнага заробку.

Гэта, прама скажам, вельмі адметны крок: у іншых краінах СНД дапамога жанчынам пры выхаванні дзяцей значна меншая (на Украіне, напрыклад, выплаты непрацуючым жанчынам складаюць 50 % ад мінімальнага заробку).

Цяжарным жа жанчынам дапамога не выдаецца (а раптам вы потым, прабачце, аборцік "правернеце"?).







### ВУЧЫЦЦА ТРЭБА. АЛЕ Ж НЕ ВЕЧНА.

*"Цяпер я вучуся на чацвёртым курсе хімічнага факультэта ў БДУ. Але адчуваю, што хімія — не для мяне. І таму хачу перавесціся на юрыдычны факультэт (на другі курс). А мне кажуць: плаці грошы за два гады, якія адвучыўся на хімфаку. Ці правільна гэта?*

**Саша, г.Мінск".**

Так, паважаны Саша, гэта правільна. Як паведаміў Фёдар Мікалаевіч Капуцкі, рэктар БДУ, супраць цябе не робіцца ніякіх незаконных учынкаў. Падумай сам. Заканчваеш ты вучобу, а працаваць не хочаш. А таму пераводзішся на іншы факультэт. Потым (калі падыходзіць да заканчэння "новая" вучоба) на трэці, чацвёрты і г.д. Працаваць не трэба, грошы плацяць. Чым не рай для гультаёў? Вось такая карціна. Так што, Саша, альбо заканчвай хімічны, альбо плаці грошы. Выбар невялікі, як бачыш, але падумаць ёсць над чым.

**На пытанні адказвалі Сяргей ВІШНЕЎСКІ, Франц ЛЯВІЦКІ. (Тэл.32-13-04).**

### КОЛЬКІ НАМ ЖЫЦЬ?

*"Чуў пра астралагічную сенсацыю: зоркі вызначаюць тэрмін жыцця...*

**І.Бандаровіч, г.Гродна".**



Ваш знак Задыяка не толькі вызначае характар, здольнасці, жыццёвыя шанцы і будучае. Ён сведчыць таксама і аб магчымай працягласці вашага жыцця.

Гэтае адкрыццё зрабіў амерыканскі сацыёлаг, астролаг і прафесар Форэст Фіклінг. Сем гадоў ён вывучаў звесткі аб нараджэнні і смерці больш чым 60 тысяч чалавек. Выявілася, што людзі, народжаныя пад адпаведнымі знакамі, жывуць намнога больш, чым іншыя.

Прафесар Фіклінг сцвярджае, напрыклад, што мужчыны Цяльца і жанчыны знака Блізняты — рэкардсмены доўгажыхарства. За імі — жанчыны знака Казярога.

Меней за ўсіх працягласць жыцця ў народжаных пад знакам Стральца. Магчыма таму, што гэты знак адпавядае жыццю інтэнсіўнаму і бурнаму.

Сам прафесар Фіклінг (Авен) і яго жонка Глорыя (Дзева) праводзілі свае даследаванні ў групе з некалькіх дзесяткаў спецыялістаў.

— Мы збіралі даты нараджэння і смерці болей чым 60 тыс.чалавек, а нашы калегі распісалі гэтыя даныя пад знакам Задыяка, — тлумачыць прафесар, — інфармацыю мы бралі з энцыклапедый, бібліятэчных фармуляраў, царкоўных кніг і нават на могілках.

Ніжэй друкуем табліцу прафесара Фіклінга.

| Знакі Задыяка | Працягласць жыцця | |
|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын |
| Казярог (22.12–20.01) | 77,5 | 80 |
| Вадалей (21.01–19.02) | 71,5 | 71,5 |
| Рыба (20.02–20.03) | 71 | 75 |
| Авен (21.03–20.04) | 79 | 78 |
| Цялец (21.04–21.05) | 81,5 | 79,5 |
| Блізняты (22.05–21.06) | 78 | 81,5 |
| Рак (22.06–23.07) | 68 | 73 |
| Леў (24.07–23.08) | 74 | 74,5 |
| Дзева (24.08–23.09) | 76,5 | 80,5 |
| Шалі (24.09–23.10) | 73,5 | 77 |
| Скарпіён (24.10–23.11) | 68,5 | 72,5 |
| Стралец (23.11–21.12) | 62 | 63,5 |

**Падрыхтаваў А.МІХАСЕНКА.**

*Проба пяра*

# БЫЛІ ГЕРОЯМІ, СТАЛІ ІЗГОЯМІ

"Дзе памяць ёсць — там слоў не трэба..." Такія надпісы вельмі часта можна сустрэць на магілах тых, хто загінуў у Афганістане. Гэтыя словы сведчаць аб тым, што "афганцаў" памятаюць іх родныя, блізкія, іх таварышы, якім пашанцавала вярнуцца з афганскага пекла. А тым, хто вярнуўся, як ім жывецца? Не сакрэт, што эканамічныя цяжкасці апанавалі ўсё наша грамадства, а воіны-інтэрнацыяналісты аказаліся сярод самых незабяспечаных катэгорый насельніцтва. Вельмі цяжка ўсведамляць, што цяпер ты нікому не патрэбны. Тады, калі трэба было стаяць пад кулямі ў Афганістане, яны былі патрэбныя дзяржаве. Цяпер ад іх адмахваюцца любымі спосабамі. Не раз мне даводзілася чуць, стоячы ў чарзе, рэплікі накшталт:"Мы вас туды не пасылалі... І колькі ўжо гэтых "афганцаў развялося..." Калісьці ім казалі, што яны выконваюць свой інтэрнацыянальны абавязак. А потым іх выстаўлялі ледзь ці не акупантамі... Горкія ўспаміны, непавага і непаразуменне з боку нашага грамадства — гэта цяжэй за ўсё ўспрымалася хлопцамі. Адзінай аддушынай для іх з'явілася асацыяцыя воінаў-"афганцаў", створаная імі ж самімі ў Мінску. Дакладней, яна называецца Мінская асацыяцыя ветэранаў вайны ў Афганістане "Памяць". Гэта іх своеасаблівая штаб-кватэра і знаходзіцца яна па вуліцы Кісялёва, 11. Сюды прыходзяць самі "афганцы" і іх родныя, каб паведаць пра свае беды, звярнуцца па дапамогу ці проста параіцца. Старшыня асацыяцыі Міхаіл Юхневіч — сам былы воін-інтэрнацыяналіст.

— Памятаеце,— звяртаецца да мяне Міхаіл, — у кінастужцы Подніекса "Ці лёгка быць маладым" гучаць словы воіна-"афганца":"Мы прыйшлі ў гэта жыццё, спазніўшыся на два гады". Гэта сказана вельмі правільна. Мы прыйшлі з Афгана ў зусім іншы свет. Гэты свет быў чужы для нас. І калі раней яшчэ магчыма было змагацца за льготы для воінаў-"афганцаў", бо яны былі дэкларыраваны законам, то цяпер гэта немагчыма.

Вось так, "афганцы" як былі адной з самых безабаронных катэгорый насельніцтва, так імі і засталіся. Таму, застаўшыся сам-насам з цяжкасцямі жыцця, хлопцы вымушаны змагацца з імі самастойна. Мне б хацелася расказаць пра цяперашняе жыццё воінаў-інтэрнацыяналістаў на некалькіх прыкладах. Не аб тым, як жывуць, а аб тым, чым жывуць, што іх падтрымлівае ў гэты цяжкі час, што надае сілы. Цяжка сказаць, што ўвесь час надавала сілы Мікалаю Капарыху, які вярнуўся з Афганістана інвалідам. Дзяржава, праўда, прызначыла яму пенсію, дапамагла набыць аўтамабіль. І на гэтым дапамога скончылася. Дзе ставіць машыну ў такім выпадку — ніхто не параіў. Але знайшліся добрыя людзі — пайшлі насустрач. Гараж Мікалаю дапамог пабудаваць трактарны завод. З усім астатнім — цяжэй. Мікалай перажыў некалькі аперацый, яму аднялі пальцы на руках. Але ўсё ж яму пашанцавала: былога воіна-інтэрнацыяналіста запрасіла да сябе на лячэнне адна з германскіх фірм. Лячэнне і дарога (туды і назад) за кошт фірмы. Сорамна, вельмі сорамна, што наша дзяржава не можа дапамагчы чалавеку, які з-за яе страціў сваё здароўе.

А можа некаму падасца, што я згушчаю фарбы? Наўрад ці... Трагічная гісторыя смерці год таму Андрэя Ігнатава, які загінуў не ў Афганістане, а тут — у родным горадзе, пад мірным небам сваёй Беларусі, загінуў ад адчаю і бездапаможнасці, дае мне падставу абвінавачваць наша грамадства. Няхай даруюць мне родныя Андрэя, няхай даруе маці за тое, што я зноў наношу ёй сардэчныя раны ўспамінамі аб сыне, але маўчаць пра гэта нельга. Андрэй служыў у Афганістане афіцэрам ваенна-паветраных сіл. Вярнуўся з арміі інвалідам першай групы. Пэўна, цяжка сабе ўявіць, што зрабіла вайна са здаровым хлопцам, але яшчэ цяжэй уявіць сабе, як паламала ягоную псіхіку цывільнае жыццё. Хлопца пакінулі ўсе, акрамя маці. Каб падтрымаць сябе псіхалагічна і пазбавіцца фізічнага болю, які даймаў з кожным днём усё мацней, Андрэй пачаў прымаць наркотыкі. А праз некаторы час з'явілася таямнічая падтрымка ў грашовым выглядзе. Пазней Андрэй даведаўся, што з грашыма яму дапамагалі рэкецiры.

Рэспубліканская асацыяцыя воінаў-інтэрнацыяналістаў паспрабуе ўзняць пытанне на сесіі Вярхоўнага Савета аб сацыяльнай абароне воінаў-"афганцаў". Ці дасць гэта хоць нейкія вынікі? Невядома...



Сяржук ДЗЯДЗЮЛЯ,
студэнт
факультэта
журналістыкі БДУ.

## Ад сесіі да сесіі

## "ПРЫКОЛЫ" З РОДНАГА ПАРЛАМЕНТА

### ВЫЙДУ ЗА СЯЛО — СТАНЕ ВЕСЯЛО

**Аляксандр Лукашэнка:** "Будучы ў акрузе на адным з комплексаў, мы звярнулі ўвагу на тое, што ўжо нашы жывёлагадоўчыя фермы запоўнены не скацінай, а лятаючай птушкай. Мы задаліся пытаннем, чаму гэта адбываецца? І вось што мы выявілі. Падышлі да аднаго з адстойнікаў, куды скідваюць з комплексу ўсе нечыстоты і паглядзелі ў той латок, які з'яўляецца праваднікам гэтай жыжкі да адстойніка. Што мы выявілі? Жывое зерне. Я ўзяў узоры (абразцы) і паколькі Станіслаў Станіслававіч, наведваючы сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, не звярнуў увагі на праблемы актуальныя, якія трэба вырашаць, я вырашыў яму прывезці вось гэтыя два ўзоры (абразцы) для параўнання...30 працэнтаў зерня, як мінімум, праходзіць праз скаціну транзітам і знішчаецца. Правільна казаў Герасюк, што вёсцы сёння, ліквідуючы манаполію на самагонаварэнне і вінна-гарэлачныя вырабы, трэба апараты паставіць. Таму што з тых адстойнікаў можна браць брагу і гнаць самагон, тэтым самым вырашаючы праблему. Адзінае, у чым не магу з вамі пагадзіцца, што ў вёсцы "атруту гоняць", паважаны народны дэпутат. Там гоняць нармальны самагон. Прыязджайце, мы вас пачастуем, пабачыце!"

**Валянцін Голубеў:** "Шаноўныя народныя дэпутаты! Канешне, як пра самагонку загаварылі, весялей стала".

### НА З'ЕЗДЗЕ ПРЫСУТНІЧАЛІ...

**Іван Герасюк:** "Прашу вас паведаміць мне і іншым дэпутатам, хто з членаў Прэзідыума прымаў удзел і прысутнічаў на з'ездзе зладзейскай мафіі ў горадзе Мінску ў гэтым годзе?"

### БЛУДНЫ СЫН РАСЕІ

**Уладзімір Грыбанаў:** "Паважаны народны дэпутат Баршчэўскі! Я ведаю, што вы сын рускага народа. Думаю, што рускі народ — вялікі народ. І ён даруе свайму блуднаму сыну, які адмаўляецца ад сваёй роднай мовы, які кажа, што лепш увесці англійскую мову: "Я б прагаласаваў за англійскую, а не за рускую". Ведаеце, рускі народ ад гэтага ні ў якім разе страты не панясе. Але мне ўсё ж шкада, што вы такое сказалі".

### ПАВАРОЧВАЙ АГЛОБЛІ

**Віктар Піскароў:** "Многа пытанняў задаюць: што мы будуем, куды мы ідзем? Калі слухаеш, падсвядома задаеш пытанне: няўжо дэпутаты забыліся, што мы прынялі праграму пераходу да рыначнай эканомікі? А калі так, значыць, мы прынялі праграму на тое, што з'явяцца багатыя, з'явяцца бедныя і гэдак далей... Тады трэба ставіць пытанне не аб тым, куды мы ідзем і што будуем, а аб тым, што мы памылкова прынялі праграму пераходу да рыначнай эканомікі. Дык давайце яе адменім і вернемся назад"

### НЕ ВУЧЫ ВУЧОНАГА

**Анатоль Вайцешык:** "Нешта мы вельмі проста адносімся да міжнародных пытанняў. У нас гэта дзяржава або гэта брыгада? Прыязджаюць амерыканцы, прыязджаюць туркі і ўсе тут нам нешта дыктуюць. Да якога часу гэта будзе?"

"ПАС"
падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар па пытаннях
палітыкі.

*Не памылюся, калі скажу, што любому чалавеку (маюцца на ўвазе ў першую чаргу прадстаўнікі мужчынскай паловы насельніцтва зямнога шара), акрамя жанчынаненавіснікаў і гомасексуалістаў, падабаюцца прыгожыя жанчыны. А якой бы прыгожай жанчына ад прыроды ні была, ёй час ад часу даводзіцца звяртацца да касметолагаў. Але гэта іх праблемы, і нам, мужчынам, падаецца цікавым толькі канчатковы вынік, а не сам працэс касметычных аперацый, якія ўжываюць нашыя жанчыны. Толькі калі ў касметолагаў існуюць вытворчыя праблемы, то яны выліваюцца ў жыццёвыя праблемы для жанчын, што прагнуць паляпшэння сваіх прыгажосцяў, і, як працяг, у жыццёвыя праблемы для нас, мужчынаў. А лішніх праблемаў ніхто не хоча. Не мы, мужчыны, не жанчыны, не касметолагі. А ў апошніх яны акурат і існуюць. У супрацоўнікаў той самай касметалагічнай лячэбніцы сталіцы СНД Мінску, напрыклад. А пачалося ўсё з таго, што калектыў лячэбніцы аднойчы на агульным сходзе вырашыў кіраваць у будучыні, у заўтрашні дзень па каляіне рынку. Калі сказаць па-простаму, вырашылі ўзяць лячэбніцу ў арэнду. І вось што з усяго гэтага атрымалася.*

# КАЛЯІНА РЫНКУ




## ці не патрэбная ёй касметычная дапамога?

Рашэнне стаць арандатарамі супрацоўнікі касметалагічнай лячэбніцы прынялі ў снежні мінулага года. І, нядоўга думаючы, падалі адпаведныя заявы і іншыя паперы ў гарвыканкам (як уласніку лячэбніцы) на імя А.М.Герасіменкі і ва ўпраўленне аховы здароўя (як непасрэднаму кіраўніцтву) на імя Ул.Л.Белякова.

Паблукаўшы троху па калідорах гарвыканкама, паперы з касметалагічнай лячэбніцы патрапілі ў камісію па пытаннях аховы здароўя да дэпутата Кавызіна, ад якога старшыня савета арандатараў лячэбніцы А.Я.Ціханава атрымала прынцыповую згоду па пытанню арэнды. І зусім іншы адказ прыйшоў з упраўлення аховы здароўя.

— Складаўся гэты "адказ" з дзвюх частак, але быў зусім не двухсэнсоўны, — распавядае Алена Якаўлеўна Ціханава. — Перш за ўсё нам павысілі план, ні капейкі не дадаўшы да заробку. На сённяшні дзень медсястра нашай лячэбніцы атрымлівае 1,5 тысячы ў месяц, а ўрач — 2 тысячы плюс 40 працэнтаў ад заробку (пры ўмове выканання плана).

Другой часткай адказу з упраўлення было тое, што яны перасварылі нас адзін з адным унутры калектыву.

**– Якім гэта чынам?**

— Вельмі проста. Ізноў жа з дапамогаю планаў. У той час, калі ўсе паслугі ў касметалагічнага, фізіятэрапеўтычнага і электрахірургічнага аддзяленняў каштуюць нядорага, нам зрабілі план 17 тысячаў у месяц (нагадаю: заробак 1,5 тысячы). У той жа час пры плане 30 тысячаў у месяц і даволі дарагіх паслугах хірургічнага аддзялення яго супрацоўнікі атрымліваюць 6-8 тысячаў у месяц. Простыя падлікі паказваюць, што яны існуюць за наш кошт. І калі гэтае пытанне было ўзнята, хірургі пакрыўдзіліся на нас, сказалі, што мы несумленныя людзі, а яны не жадаюць быць разам з такімі ў арэндзе. Гэта быў першы ўдар па нашай ідэі.

**– Але, відаць, не апошні?**

— Што праўда то праўда. У хуткім часе пачаліся размовы, што арэнда да дабра не давядзе, што дзяржава заўжды падтрымае нас датацыямі, што ўвогуле гэтая ідэя авантурная. І людзі прыслухаліся — пра арэнду часова забыліся.

**– Ці надоўга?**

— Як я і прадказвала, ненадоўга. Датацый ніякіх мы не атрымалі, план пры адсутнасці добрай рэкламы не выконвалі і паступова ператварыліся з нерэнтабельнай у стратную ўстанову. Ідэя аб арэндзе, здавалася, забытая назаўжды, усплыла ізноў.

**– Нават сярод супрацоўнікаў хірургічнага аддзялення?**

— На жаль, не. Але, згодна з артыкулам 17 Закона "Аб дзяржпрадпрыемствах", мы маем права выхаду са складу дзеючага прадпрыемства. Таму было вырашана ўзяць арэнду трыма аддзяленнямі: касметалагічным, фізіятэрапеўтычным і электрахірургічным. І 18 чэрвеня адаслалі заяву, выпіску з пратакола № 15 ад 9 чэрвеня 1992 года сходу працоўнага калектыву трох аддзяленняў лячэбніцы і ўстаноўчы дагавор начальніку ўпраўлення аховы здароўя Мінгарвыканкама Ул.Л.Белякову і старшыні Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў А.М.Герасіменку.

Адказ ад Белякова прыйшоў 6 ліпеня. Ён папрасіў выслаць на імя ўпраўлення дагавор і поўны пратакол сходу працоўнага калектыву, а не выпіску з яго. 30 ліпеня ўсе гэтыя дакументы былі высланы. 6 жніўня прыходзіць новы ліст, у якім указваецца, што перш чым думаць пра арэнду, неабходна адпрацаваць 112,5 тысячы планавых рублёў, якія калектыў не здолеў зарабіць у мінулыя месяцы, і правесці новы сход, таму што, маўляў, на мінулым (калі было прынята рашэнне аб арэндзе) прысутнічалі не ўсе супрацоўнікі лячэбніцы. Хаця кворум быў.

І пайшло-паехала. Ціханава акурат гэты час была ў адпачынку. Яе намеснік у савеце арандатараў Данілава ў сваім лісце Белякову прапанавала не пераліваць з пустога ў парожняе, а стварыць інвентарную камісію, якая падзяліла б паміж тымі аддзяленнямі, што жадаюць узяць арэнду і аддзяленнем хірургіі не толькі памяшканні, але і гэтую запазычанасць дзяржаве. Адказу на яе ліст так і не прыйшло. Затое была сабрана калегія ва ўпраўленні, на якой пытанне аб тым, што рабіць з касметалагічнай лячэбніцай, разглядалася ў вельмі цікавым ракурсе: ліквідаваць яе ўвогуле як непрыбытковую альбо далучыць да скурвендыспансера? Вось так, адным махам — усе праблемы. Не здолелі дапамагчы перасячы гэты гордзіеў вузел касметолагам і іх калегам па працы і прафсаюзы. Намеснік старшыні прафсаюза работнікаў аховы здароўя Г.М.Крупень 21.07.92 г. у сваім лісце ў абарону калектыву лячэбніцы адзначае, што "лічыць магчымым стварыць арэнднае прадпрыемства на базе трох аддзяленняў" і... умывае рукі.

Тады медыкі звярнуліся па дапамогу ў канфедэрацыю працы Беларусі, але і тыя пакуль грунтоўнай дапамогі не аказалі. Таму асноўная падзея па-ранейшаму толькі на ўласную ініцыятыву.

12.10.92 г. савет арандатараў пасылае Белякову ультыматыўны ліст за подпісам старшыні савета Ціханавай, у якім патрабуе даць канкрэтны адказ на пытанне аб магчымасці арэнды. На што 22.10.92 г. атрымалі ліст напышліва азагалоўлены "Аб рашэнні пытання аб пераходзе на арэнду". У ім паведамляецца, што створана камісія, якая і будзе вывучаць і спрабаваць вырашыць гэтую дылему. Старшынёй камісіі прызначана намеснік начальніка упраўлення аховы здароўя Мінгарвыканкама Л.П.Кісялёва. Ад грамады арандатараў у камісію гэтую ўключаны загадам начальніка ўпраўлення толькі адзін чалавек, а ад астатніх структур Упраўлення аховы здароўя — 12. Прычым гэтым адным "шчасліўцам" не сталі ні старшыня савета арандатараў, ні нават яго намеснік. Вось такія пірагі.

Гэта перапоўніла чашу цярпення медыкаў і 3 лістапада яны правялі сход трох аддзяленняў, на якім было вырашана распачаць акцыю ў сваю абарону з элементамі акупацыйнай забастоўкі. Сюды ўваходзіць (паэтапна): зварот у Савет народных дэпутатаў з просьбай прыняць усе законныя меры для абароны правоў працоўнага калектыву; блакіраванне функцый адміністрацыі лячэбніцы і ўпраўлення; пералічванне выручкі на разліковы рахунак прафсаюзнай арганізацыі канфедэрацыі працы Беларусі лячэбніцы і г.д. 6 лістапада аб гэтым былі папярэджаны ўпраўленне аховы здароўя і гарсавет.

**Як бачна, сітуацыя ўсё больш і больш напаляецца. І калі раптам касметалагічная лячэбніца ўвогуле спыніць сваю працу, то крайнімі застануцца ў першую чаргу наведвальнікі. Так што ж сабе думаюць кіраўнікі з упраўлення аховы здароўя?**

Начальнік упраўлення Уладзімір Леанідавіч Белякоў адмахнуўся ад маёй просьбы пракаменціраваць сітуацыю, што склалася, і накіраваў да начальніка аддзела планавання і аналізу дзейнасці гасразліковых аддзяленняў і арганізацый упраўлення Галіны Фёдараўны Міцьковай. Тая аказалася даволі скваплівай на словы.

— 15 лістапада камісія, створаная спецыяльна для гэтага, скончыць сваю працу і паведаміць рашэнне.

**– А якое вашае прыватнае стаўленне да ўсяго гэтага?**

— Адмоўнае. Пераходзіць на арэнду можна цалкам усёй лячэбніцай, а не асобнымі аддзяленнямі. Гэта толькі дадасць новых праблемаў.

У хуткім часе камісія выкажа сваё рашэнне. Толькі ўжо сёння па настрою супрацоўнікаў апарату ўпраўлення (на які, дарэчы, адлічваліся працэнты з прыбытку лячэбніцы) і складу камісіі можна ўявіць сабе, якім яно будзе.

Вось такой аказалася каляіна рынку для калектыву касметалагічнай лячэбніцы. Мараль? Не ўсё тое золата, што блішчыць. І па тым, як вырашыцца пытанне з арэндай касметалагічнай лячэбніцы, можна меркаваць, што атрымаецца з усіх урадавых пастаноў аб набліжэнні да рынку.

Зміцер ЛУКАШУК,
аглядальнік
па пытаннях
эканомікі.
Тэл.39-87-94.

## Эканамічны пасьянс

**У мінулым нумары мы прыводзілі парады пачынаючым інвестарам. І спадзяёмся, пераканалі ўладальнікаў "лішніх" грошай укласці іх у каштоўныя паперы. Самыя распаўсюджаныя з іх – акцыі і аблігацыі.**

### АКЦЫЯ

— гэта каштоўная папера, якая сведчыць аб долі ў акцыянерным капітале кампаніі і фармальным удзеле ў кіраванні кампаніяй.

Самая звычайная ( так і завецца — "звычайная акцыя") — прыносіць дывідэнт у залежнасці ад прыбытку кампаніі.

У адрозненне ад яе, прывілеяваная акцыя забяспечвае свайму ўладальніку фіксаваны дывідэнд. У сваю чаргу, прывілеяваныя акцыі падзяляюцца на кумулятыўныя (якія прыносяць прыбытак нават калі прадпрыемства церпіць выдаткі) і некумулятыўныя. У выпадку поспехаў фірмы дывідэнд са звычайнай акцыі можа нашмат перавысіць прыбытак з прывілеяванай.

Існуюць акцыі "з правам голасу", якія даюць уладальніку права галасаваць на сходзе акцыянераў, "з абмежаваным правам голасу" — даюць права галасаваць па пытаннях, якія датычацца кошту акцый (продаж, заклад маёмасці) і "без права голасу".

### АБЛІГАЦЫЯ

можа выдавацца як карпарацыямі, так і ўрадам. З'яўляецца фінансавым абавязкам у выглядзе каштоўнай паперы, які дае права на атрыманне цвёрдага дывідэнду — "працэнтаў", а таксама на поўнае пагашэнне, ажно да поўнай выплаты яе кошту. Любая аблігацыя, прададзеная фірмай, з'яўляецца часткай яе ўнутранага доўгу. Аблігацыі таксама бываюць розных відаў.

Купонныя — мае купоны з нормамі выплаты працэнтаў. Адрэзаны купон прад'яўляецца да аплаты ў банку.

Імянная — працэнт па ёй выплачваецца непасрэдна ў кампаніі. Імёны ўладальнікаў фіксуюцца кампаніяй.

Іпатэчная (закладная) — забяспечваецца нерухомасцю выдаўшай кампаніі.

Аблігацыі акцыянерных таварыстваў — гэта прамыя фінансавыя абавязкі, якія не забяспечваюцца маёмасцю кампаніі. Тут гарантыя — фінансавы статус фірмы.

Зваротная — можа абменьвацца на іншыя па ўстаноўленых абменных шкалах.

Урадавая, муніцыпальная — прыбыткі з гэтых аблігацый не абкладаюцца падаткамі.

Натуральна, акцыі і аблігацыі неаднолькава прыцягальныя для інвестараў. Набыццё акцый мае пэўны элемент рызыкі: вашыя прыбыткі неад'емна звязаны з прыбыткам фірмы. Аблігацыі звычайна абяцаюць меншы, але гарантаваны дывідэнд, што вабіць больш асцярожных інвестараў.

Падпіска—93. Наш індэкс 63129.

Выдавецтва "Беларусь" падрыхтавала да друку кнігу Уладзіміра Арлова "Таямніцы полацкай гісторыі". У ёй ідзе гаворка пра малавядомыя, часам загадкавыя старонкі гісторыі Полацка, які быў калыскаю беларускай дзяржаўнасці, даў Бацькаўшчыне цэлае сузор'е выдатных палкаводцаў, асветнікаў, вучоных і людзей мастацтва. Разам з тым аўтар паведамляе шмат надзвычай цікавага пра побыт продкаў, іхнія традыцыі, захапленні. Чытача "Таямніцаў" чакае падарожжа працягласцю ў тысячу гадоў — з часоў паганства да пачатку XX стагоддзя.

Прапануем вашай увазе фрагмент будучай кнігі, якая, дарэчы, выходзіць у свет пры фінансавым удзеле Полацкага камбіната будаўнічых матэрыялаў і іншых прадпрыемстваў, што адраджаюць высакародныя традыцыі мецэнацтва.

# ПОЛАЦКАЯ ВАЙНА

Рака беларускай гісторыі не давала Полацку спачываць у ціхай завоіне, зноў і зноў выносячы яго на самую строму. Так здарылася і ў сярэдзіне XVI стагоддзя.

1558 год. Маскоўскае войска з агнём і мячом уварвалася ў Лівонію. Напачатку фартуна спрыяла яму, і маскавітам удалося захапіць Нарву і Тарту. Шукаючы падтрымкі, лівонскі магістр прызнаў сябе васалам Вялікага княства Літоўскага. Беларуска-летувіскія палкі гетмана Радзівіла Рудога рушылі на дапамогу лівонцам. Вялікі князь і кароль Жыгімонт Аўгуст прапанаваў цару Івану IV узаемна адвесці войскі, ды той меў іншыя планы. "Мы з'яднаем свае сілы, каб Польшча і Літва не выслізнулі ад нас", – пісаў ён нямецкаму імператару.

Вайна Лівонская ператварылася ў вайну Літоўскую.

Царскія ваяводы пляжылі Беларусь, неслі смерць і здзекі. Князь Андрэй Курбскі хадзіў на Віцебск. "Острог взяли и пожгли, – апавядае маскоўскі летапісец, – и посады у города у Витебска все пожгли и наряд в остроге поймали и людей в остроге многих побили и села и деревни около Витебска пожгли и повоевали". Апрача касцёлаў, Курбскі спаліў дваццаць чатыры праваслаўныя храмы і люта расправіўся з беларускім палонам, але цар усё адно пазіраў на яго скрыва, бо пад Невелем князь, маючы пятнаццаць тысяч ваяроў, не здолеў разбіць чатырох тысяч беларусаў і летувісаў.

"Уся Літва ёсць вотчына гасудароў маскоўскіх!" – абвясціў Іван IV на саборы, а дваране сказалі: "Мы, халопы царскія, за адну дзесяціну зямлі Полацкага або Азярышчанскага павета галовы скласці гатовыя". Масковія рыхтавалася да вялікага паходу. Напрыканцы 1562 года палкі сабраліся ў Мажайску, і да іх выехаў цар. Яму сніўся Полацк, ютрань у святой Сафіі, срэбныя берагі і залатое дно Дзвіны.

Яшчэ і сёння ад экскурсаводаў каля Сафійскага сабора можна пачуць замілаваныя словы пра тое, як цар Іван Грозны "освобождал Полоцк от литовских феодалов". Большасці турыстаў (ды і самім не вельмі адукаваным гідам, якія завучылі зацверджаны недзе тэкст) і няўцям, што такія аповеды не проста бясконца далёкія ад праўды. Яны абражаюць нацыянальную годнасць беларусаў. Зневажаюць памяць тысяч бязвінна забітых палачанаў. Зноў цяжкая спадчына летаргічнага сну нашай гістарычнай свядомасці. Бяспамятны паверыць на слова несумленнаму гісторыку. Бяспамятны будзе душыцца ў чарзе на перавыдадзены нядаўна (на Беларусі!) бестселер сталінскіх часоў – раман расейскага пісьменніка В.Костылева "Иван Грозный", у якім цар-бацюхна верна служыць народу, кладзецца спаць і ўстае з адным клопатам "как служить Богу и как истреблять врагов России".

Які ж быў наш "вызваліцель" напраўду?

Каб не здавацца занадта староннім, спачатку дам слова славутым расейскім гісторыкам. М.Кастамараў называў Івана IV "чудовищем, которое лжет в каждом слове", В.Ключэўскі – "зверем от рождения", а С.Салаўёў пісаў, што гісторык ніколі не прамовіць такому чалавеку слова апраўдання.

У дзяцінстве цар любіў бавіцца, скідваючы з высокіх дахаў катоў і здзекуючыся з дробнай жывёлы. Гадоў з пятнаццаці пачаў "упускаць" з вышыні таварышаў сваіх дзіцячых гульняў і з асалодаю глядзеў, як тыя канаюць. Павянчаўшыся на царства, семнаццацігадовы валадар учыніў нялюдскую расправу над пскоўскімі пасламі, што прыехалі скардзіцца на намесніка, – загадаў сарваць з сямідзесяці немаладых шаноўных людзей адзенне, пакласці іх на сырую каменную падлогу, а сам паліваў ім галовы спіртам і свечкаю падпальваў валасы. Калі цару прывезлі з Персіі слана, ён закамандаваў таму стаць перад памазаннікам Божым на калені. Няшчасная жывёліна, не ведаючы расейскае мовы, не паслухалася і была за гэта пасечана на кавалкі.

Садызм зрабіўся для цара жыццёвай патрэбаю. Ён катаваў колішніх сяброў, уласнаручна зарэзаў у застоліцы князя Абаленскага-Аўчыніна, абарваў жыццё свайго сына... У часы так званай апрычніны царовы слугі цэлы месяц забівалі ў Ноўгарадзе штодня па 500-1000 чалавек. Маскоўцы шэптам перадавалі адзін аднаму, што цар і вялікі князь Іван Васілевіч рукі з кішэняў прылюдна не дастае, бо не можа з іх кроў адмыць. Тады ж недзе на нядаўна захопленых наўгародскіх і пскоўскіх землях нарадзілася песня:

У того царя да у Собаки
А окол двора да тын железный,
А на каждой-то на тычинке
По человечей-то сидит головке.

Крывавая тыранія напоўніла краіну даносчыкамі і катамі. "Няхай цар пакажа нам сваіх здраднікаў, а мы самі вынішчым іх", – крычалі памазанніку сталічныя купцы і мяшчане. "На рабы своя, от бога данныя ему, жестокосерд вельми, и на пролитие крови и на убиение дерзостен и неумолим, множество народу от мала и до велика при царстве своем погуби", – сказаў пра цара маскоўскі летапісец. І побач, таксама пра яго: "Муж чюдного рассуждения, в науке книжного поучения доволен и многоречив зело".

Багата прысвечаных цару захопленых слоў знойдзецца і ў расейскім фальклоры. Рэкі крыві, войны і захопы чужых земель успрымаліся як доказы богаабранасці Івана IV, што, маўляў, змагаецца з ворагамі ў дзяржаве і за яе межамі. Манархічныя ілюзіі канчаткова зрабіліся рысаю расейскага нацыянальнага характару. Менавіта гэты цар пакінуў Расеі ў спадчыну ўжо цалкам сфарміраванае азіяцкае самаўладдзе, што трымалася на тэрорах супраць свайго народа. (Нядзіва, што Іванам IV захапляўся Сталін). Нават князёў і баяраў ён прымусіў называць саміх сябе "халопамі". Перабегшы ад свайго гаспадара ў Вялікае княства Літоўскае, Андрэй Курбскі пісаў Івану, што той "затворил землю русскую, сиречь, свободное естество человеческое, аки в адовой твердыне".

Еўропа глядзела на маскоўскага ўладара як на дэспата, роўнага каму не было ні ў Старым, ні ў Новым свеце. Смешна чытаць у некаторых расейскіх гісторыкаў, што цар быў выдатны дыпламат. Наўрад Масковія заваявала ў еўрапейскіх краінах павагу ад таго, што Іван IV абвяшчаў сябе найвышэйшым з усіх каранаваных валадароў. Ангельскую каралеву Лізавету "выдатны дыпламат" ахрысціў "пошлою девицей". У свайго суседа шведскага караля Юхана, бацька якога быў просты дваранін, Іван Васілевіч пагардліва дапытваўся ў лісце: "А ты скажи, отец твой Густав чей сын, и с какими государями был в братстве, и какого ты роду государьского?". Пра нашага манарха Жыгімонта Аўгуста цар казаў: "паче худейша худейшых рабов суща". Тым больш, што маскоўскія сваты атрымалі ад каралеўны і вялікай князёўны літоўскай адмову, і цар мусіў ажаніцца з чэркескай князёўнаю, якая, паводле расейскага гісторыка М.Карамзіна, мела дзікі нораў і жорсткае сэрца і яшчэ болей умацоўвала ў душы цара зло.

Не Грозным, а Жахлівым называлі яго на паняволеных землях.

Будучы "вызваліцель" павёў палкі з Мажайска на Тарапец, потым на Вялікія Лукі і Невель, а адтуль, лясной і цеснай дарогаю, – на Полацк.

Вайна Літоўская зрабілася Полацкаю.

З Іванам Жахлівым ехалі казанскія цары Аляксандр і Сімяон, царэвічы Ібак, Тахтамыш, Бекбулат ды Кайбула, дванаццаць думскіх баяраў, пяць акольнічых і шаснаццаць дзякоў. Калі верыць маскоўскім пісцам, цар вёў 200 тысяч конніцы, 60 тысяч пяхоты і 80 тысяч абозных людзей. Гісторыкі лічаць такія лічбы моцна завышанымі і пагаджаюцца на 60 тысяч воінаў, але ўсё роўна гэта была велізарная сіла: здавалася, на Полацк вырушыла ўся Масковія. Войска мела 200 гарматаў, у тым ліку чатыры вялікія сценабітныя і 36 камене- і вогнекідальных. Са збройнымі людзьмі ішло шэсць тысяч грабароў – правіць дарогі. Гарматы, порах, кулі ды іншы вайсковы рыштунак цягнулі на сябе 40 тысяч "чорных людзей" (цар ашчаджаў коней). Першую сценабітную гармату везлі на змену болей за тысячу чалавек, другую – тысяча, трэцюю – дзевяцьсот...

31 студзеня 1563 года гэтая арда спынілася на дзвінскіх берагах. Перад ёю ляжаў найбагацейшы горад Вялікага княства і яго галоўная цвярдыня – з дзевяцівежавым замкам, з дванаццаццю манастырамі і васемнаццаццю храмамі.

Насупраць полацкіх умацаванняў адразу падняліся зробленыя ворагам за тры вярсты ад горада абложныя туры, праз сцены паляцелі ядры і агонь. Над местам паплылі клубы чорнага дыму.

Невялічкі ў параўнанні з непрыяцелем гарнізон здавацца, тым не менш, не збіраўся. Палачане нават задумалі адбіць у маскавітаў гарматы і аднае начы ўчынілі вылаз. Царовых пасланцоў, што прывезлі граматы з прапановаю скласці зброю і служыць "истинному государю", абаронцы пакаралі смерцю як здраднікаў.

Невядома, колькі яшчэ трывалі б аблогу нашы продкі, каб не памылкі ваяводы Станіслава Давойны. Першы раз ён спудлаваў, выправіўшы з горада дзве тысячы сялянаў, што ўмацоўвалі сцены. Ваявода хацеў паменшыць колькасць едакоў, ды паспрыяў не сабе, а ворагу. Царскія людзі палавілі сялянаў і прымусілі іх паказаць лясныя ямы з гарадскімі запасамі збожжа. Другі раз Давойна схібіў, калі адвёў абаронцаў у замак і падпаліў астрог з пасадамі. Пад прыкрыццём густога дыму стральцы ўварваліся ў места і перацягнулі туды гарматы. У той дзень палоннымі сталі адзінаццаць тысяч навакольных сялян, што хаваліся ад "вызваліцеляў" за полацкімі сценамі. Цар раздаў палон князям, баярам ды "приказным" людзям, і няшчасных пагналі ў Масковію.

Варожая артылерыя стаяла ўжо зусім блізка ад замка. Апрача таго, маскавіты падвялі падкоп і ўзарвалі вялікі парахавы прыпас, ад чаго выгарала трыста сажняў сцяны.

Татары з царскага войска злавілі двух "літоўцаў" – Марка Іваніча і Фядка Хлябовіча. Тыя распавялі, што на падмогу Полацку ідзе гетман Мікалай Радзівіл і што ён даў каралю слова выратаваць места ад ганьбы. Аднак гетман не адважыўся на бітву. Дый на што ён мог разлічваць са сваімі трыма з паловаю тысячамі жаўнераў і дваццаццю гарматамі? Тым часам маскоўскае воінства плюндравала Полацкую зямлю, выпальваючы ад Дзісны да Дрысы вёску за вёскай.

14 лютага цар загадаў князю Васілію Сярэбранаму біць з вогненных гарматаў, і за пяць гадзін да світання полацкая фартэца загарэлася. Абаронцаў душыў дым, харчовыя запасы заканчваліся, надзей на Радзівіла ўжо не было. Пасля сёмага варожага прыступу ваявода Давойна, віленскі ваяводзіч Ян Глябовіч, полацкі епіскап Арсеній і лепшыя людзі ад шляхты выйшлі з замка і папрасілі літасці. Полацкая шляхта і пяцьсот "каронных рыцараў" адмовіліся здавацца і адбіваліся яшчэ некалькі дзён, аднак лёс горада быў вырашаны.

Цар дакляраваў ваяводу і праваслаўнаму епіскапу, што пакіне кожнаму палачаніну волю і маёмасць. Давойна, як быццам забыўшыся, што дзяржаўнага слова ў Масковіі ніколі не трымалі, выступіў з фартэцы з усім войскам і артылерыяй, прайшоў паміж двума шыхтамі стральцоў і стаў на вызначанае месца. Пасмяяўшыся з веры ў ягоныя абяцанкі, цар Іван акружыў палонных моцнай аховаю і загадаў пяць дзён не даваць ім есці. Гарадскі скарб і ўласнасць купцоў, шляхты ды ўсіх заможных жыхароў ён прысабечыў і адаслаў у сваю сталіцу. Мірных месцічаў выгналі ў поле і таксама ўзялі пад варту.

18 лютага пераможца ўехаў у горад, прыняў тытул князя полацкага, слухаў палудніцу ў Сафійскім саборы і напісаў свайму мітрапаліту Макарыю: "Се нынче исполнилось пророчество, что вознесет Москва руки свои на плеща врагов ея. Господь наш Иисус Христос истинный бог наш излиял на нас недостойных великого дара несказанную свою милость, вотчину нашу град Полтеск нам в руки дал".

Палоннае войска і гараджанаў пайменна перапісалі, і цар узяўся чыніць суд. Абяцаную волю атрымалі толькі польскія рыцары, якіх надзялілі сабалінымі футрамі ды залатымі манетамі і адпусцілі на радзіму. Яны мусілі паведаміць Жыгімонту Аўгусту, што маскоўскі валадар вайны не прагне, а хоча адно вярнуць "свае" Валынь, Галіччыну і Беларусь да самае Вільні.

Ваяводу Давойну з жонкаю і дзецьмі, епіскапа Арсенія, віленскага ваяводзіча, знаных полацкіх шляхціцаў Неміровіча, Корсакаў, Ешманаў ды іншых цар адправіў у Масковію. Ваяводзіха Пятронія з роду Радзівілаў у палоне сканала, а самому Давойну праз чатыры турэмныя гады ўдалося выкупіць сябе і сям'ю за дзесяць тысяч чырвонцаў.

Палоннымі абвясцілі ўсіх палачанаў. Шляхту, мяшчанаў і тых, хто хаваўся ў месце, Іван загадаў вязаць і гнаць на ўсход. Удзельнік вайны італьянец Аляксандр Гваніні, які быў віцебскім камендантам, у сваёй "Хроніцы Еўрапейскай Сармацыі" паведамляе, што маскоўскі цар вывеў з Полацка пяцьдзесят тысяч нявольнікаў. Польскі гісторык Мацей Стрыйкоўскі (ён на той час таксама служыў у Віцебску) дадае, што гналі іх не па-хрысціянску, а як іудзеяў да Вавілона: і кабет, і дзяцей вялі злыганых вяроўкамі і абы-як апранутых. Людзей амаль не кармілі, і яны сотнямі паміралі на зімовых дарогах ад голаду і марозу. Успомніце пра іх, калі будзеце ехаць з Полацка ў сталіцу былой савецкай імперыі на фірмовым цягніку "Дзвіна".

Мала каму з палоннікаў лёсіла вярнуцца дадому. Тых, хто не застаўся ў сумётах, у Масковіі развезлі па розных гарадах і сядзібах. 665 палачанаў па царовым наказе зарэзалі ў вязніцах. Камусьці пашанцавала вырвацца на волю і неяк уладкавацца на чужыне. Полацкія шляхціцы Бурцавы і Курчэевы былі, напрыклад, сярод першых будаўнікоў Уфы. А вось яшчэ адзін трагічны чалавечы шлях, пачаты ў доме над Дзвіною. У аддзеле рукапісаў Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбурзе захоўваецца "Псалтыр" 2-ой паловы XVI стагоддзя, дзе можна прачытаць: "Написана сия книга рукою многогрешного и недостойного раба божего Ивана полонянина полоцкого в заключении и во двоих путах связаного на Волоку Ламском".

У здранцвелым ад жаху горадзе чуліся несціханы плач, перадсмяротныя крыкі ды рогат п'яных заваёўнікаў. Яны панішчылі полацкае рыцарства, якое адмовілася перайсці на службу да тырана. Стральцы на вачах у мужоў і бацькоў гвалцілі паважных кабет і маладзенькіх дзяўчатак, а таму, хто кідаўся іх бараніць, сціналі бердышом галаву. Паміж баляваннямі садысцкая Іванава душа купалася ў крыві. Цар вынаходзіў ахвярам усё новыя катаванні. Палоннаму іншаземцу-найміту Андрэю Гесэ Іван Жахлівы за адмову служыць яму загадаў адстрэліць абедзве рукі па локаць, выкалаць адно вока і выпаліць палову барады, а потым адвезці з сям'ёю ў Маскву і трымаць там да смерці.

У месце жыло нямала іудзеяў. Ім, ад старых да немаўлятаў, выпала страшная доля – загінуць пад лёдам Дзвіны і Валовай азярыны. Пскоўскі летапіс апавядае: "Которыя были в городе люди жидове, и князь великий велел их с семьями в воду в речную вметати и ўтопили их". Такі самы лёс напаткаў католікаў. Царскія татары пасеклі шаблямі манахаў-бернардзінаў і пусцілі дымам іхні храм. У той дзень апошні раз маліліся Богу і браты-дамініканы. "Вызваліцель" вымагаў без усякага суда пазбаўляць жыцця ўсіх, хто хрысціцца не па-праваслаўнаму.

Паданне кажа, што ў Полацку, калі трэба было змацаваць грамату пячаткай, цар выганяў усіх прэч, каб не бачылі, як з ягоных рук крапае кроў. А маскоўскі летапісец выводзіў: "Божиим же неизреченным великим милосердием и государьскою теплою верою к Богу и его государьским умыслом в Полотиску и в остроге ротмистров и королевских дворян и всяких воинских людей и черных из наряду много бесчисленно побили. И мы благодарим Бога и приснодевую Богородицу, заступницу христианскую о даре их великом и будем молить их и святых великих чудотворцев за государя царя и великого князя Ивана и за его царицу великую княгиню Марью и за детей его царевичей Иоанна и царевича Фёдора, дабы и впредь даровал нам победу над всеми врагами зримыми и незримыми и давал мир и тишину со всеми странами и на пользу всему православному христианству".

Напрыканцы лютага палачане пачулі хоць нейкую палёгку: цар з ардой накіраваўся дахаты. Пакідаючы горад, ён, як сведчаць дакументы, загадаў сваім ваяводам: "Равы паправіць, старыя пачысціць і новыя пакапаць, каб былі стромыя ды глыбокія; у астрозе за Палатой паглядзець, і якое места выгарала, тое да ладу прывесці, сцяны тры або чатыры зрабіўшы, і зямлёю засыпаць, і стральніцы ды вежы дзеля сценнага бою парабіць; есці ў сухмень усім, за местам у полі варыць, апрача адных баяраў і ваяводаў. А літоўскіх людзей прыезджых і тутэйшых, і шляхту, і баяраў, і чорных людзей адных у замак не пускаць, а калі ў які дзень урачысты на вялікае свята папросяцца да Сафіі прамудрасці Божай, тады іх пусціць, але не разам усіх, а купкамі малымі, але асцярогу ў месце ўчыніць і паўсюль стральцоў дабавіць. А ведаць баярыну князю Пятру Іванавічу Шуйскаму браму Усціцкую, а баярыну князю Васілію Сямёнавічу Сярэбранаму браму Вялікую, а Пятру Сямёнавічу Сярэбранаму – Сафійскую, а баярыну Івану Васільевічу Шарамецьеву – Барагародзіцкую. А гараднічым Васілію Галавіну і Васілію Замыцкаму хадзіць па начах з ліхтаром, мяняючыся, па ўсіх вартах і места замыкаць, а ключы да баярына князя Шуйскага адносіць".

Пацягнуліся доўгія шаснаццаць гадоў маскоўскай акупацыі.

Горад ператварыўся ў велізарнае пажарышча. Згарэла ўся ўмацаваная частка – астрог, дзе было тры тысячы двароў. Гарэлі полацкія вёскі. Сялянаў вялі ў няволю або змушалі цалаваць крыж на вернасць цару і ваяваць супроць братоў. Уведаўшы пра непрыхільнасць да новае ўлады, ваяводы пасылалі карнікаў, якія не літавалі ні жанчын, ні дзяцей. Захопнікі занеслі з сабой чуму, што касіла жыхароў Прыдзвіння ў 1563, 1566 і 1567 гадах. Не хапала святароў, каб адпяваць нябожчыкаў.

(Заканчэнне ў наступным нумары).




Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№17 (207)

*Розгалас*

# "БАСОВІШЧА"– ЧАДУ!

*Свой погляд на фестываль "Басовішча-92" газета "Чырвоная змена" выказала яшчэ ў ліпені г.г., і ён нават пайшоў гуляць па свеце (спасылкі і нават поўныя перадрукоўкі нашых "Бесаў на "Басовішчы" бачылі ў шэрагу выданняў не толькі айчынных, але і замежных, дзякуй Богу з указаннем крыніцы). Але чытачам, відаць, цікава, што думаюць пра беларускі фэст, беларускі рок іншыя. Бадай, пераклад артыкула з польскага штомесячніка "Czasopis" (№ 9, 1992) зможа хоць часткова задаволіць гэтую цікавасць.*




## 1. ПЕРШ ЧЫМ "БАСОВІШЧА" ЎЗЫШЛО НА СЦЭНУ...

Калісьці мусіў здарыцца такі пачатак. Але спярша бліснула геніяльная думка наконт яго. Неяк падышоў сабе снежань 1989 года і ІІ з'езд БАСу. На стол ускочыў Басовішчух. Нябачная муза, а дакладней – нябачны муз шапнуў: "Спадары студэнты, а ці не арганізаваць гэткую музычную імпрэзку, гэткі невялікі фестывальчык?" А спадары студэнты... О! Сапраўды! Чаму ж не! Але як! Дый пад якой назвай? А мо... Басовішчух ужо і падказвае: "БАСОВІШЧА".

Для несвядомых растлумачваем: Басовішчух – гэта беларускі меламан. Маладзён такі маленькі, тлусценькі. У гафтаванай кашульцы. З уолкманам на вялікіх, разложыстых і кудлатых вушах. Басовішчух, папросту, гэта добры дух "Басовішча".

## 2. ПЕРАСЦЯРОГІ НАПЯРЭДАДНІ 17 ЛІПЕНЯ 1992 ГОДА

Навошта нехта здзірае і нішчыць рэкламныя плакаты? Запытайце знерваваную бабулю, і яна адкажа: "Ну як жа можна глядзець на голую ср...у, а ну іх да д'ябла".

Нядаўна ў нашую рэдакцыю ўскочыў пажылы мужчына. Сярод першых слоў востра загучалі:"І навошта ўся гэтая парнаграфія?"

Усе "крылатыя свінні" адляцелі разам з гітамі "Грамады". Цяпер трыумфуе моцны эфект. "Уліс", "Крама", "Мроя", "Дзіда", "Сэвен Бі"... "Басовішча" пасоўваецца наперад. Адважна. На гэтым шляху раскідвае перашкоды. Праўда, яшчэ голае. І "Басовішча" ўжо не захіляецца свінскімі алегорыямі. Ужо з'едзены ўсе "крылатыя свінні", дый пэўны вопыт "Басовішча" набыло. "Адчыніце дзверы музыцы!– заклікалі голыя гітары з плакатаў на мурах, слупах, малочнях, гарадскіх і вясковых крамах Беласточчыны.–І прыязджайце!"

## 3. І ПРЫЕХАЛІ

"Хоць раз на год Гарадок ажывае. Справа ў тым, што "Басовішча"– гэта ўжо як гарадоцкае свята. Ужо сёння нейкія маладзёны малако куплялі ды так прыгожа, так інтэлігентна па-беларуску размаўлялі. Адразу відаць, што гэта не з тых, што са сваімі яткамі пад крамай гандлююць". Ужо ў чацвер пільныя вочы прадаўшчыцы з гарадоцкага Super-Marketu ў моры кліентаў лавілі незнаёмыя рысы.

Мо колькі соцень гадоў таму Гарадок ажываў часцей, чым раз на год. Мо князь Хадкевіч знаходзіў радасць у турнірах і ў смаку печанага зубра. Любіў сабе гукнуць басам на ўсю ваколіцу. А мо калісьці і дзьмухне моцна ў паляўнічы рог. Акурат у тым месцы, якое пазней тутэйшыя ахрысцілі Борыкам. І князь наканаваў, натхніў музычна будучыню. Хутчэй за ўсё менавіта тады нарадзіўся на сасновым шыгаллі Басовішчух, добры дух Басовішча. З Замкавай Гары да Борыка – як толькі трошкі махнуць конскімі капытамі.

І прыехалі. Цягнікамі. Аўтобусамі. Легкавушкамі. Роварамі. Прыйшлі нагамі. Некаторыя смела таптали лясныя сцежкі. Гэта – басавішчанскія ветэраны. Іншыя – нясмела за імі. Найбольш упэўнена маршыравалі гарадоцкія аўтахтоны. Краса моладзі. Матулі з дзеткамі. Татулі з рэкламоўкамі. Трохі ззаду – бабулі з дзядулямі. Усе – аматары беларускай песні.

Колькі іх было? Басавішчан? Ды хто іх ведае? Пастаянна нейкія новыя ногі прыносілі цікавы твар. Арганізатары вырашылі выслаць з пэўнай місіяй Басовішчуха. Але дзе ён падзеўся? Відаць, там, дзе надзвычайна пахне ігліцай. І менавіта ж Басовішчух захаваў у сабе свежасць старадаўняга бору. Знайшоўся. Спрабаваў палічыць усе іголачкі. Але калі гукнула "Крама", і ўсе пачулі рока, завіравала зямля, і Басовішчух зваліўся з самай высокай сасны ды знямела шапнуў: "Тысячы".

Прыехалі доўгавалосыя хлопцы. І кароткавалосыя хлопцы. Каляровыя дзяўчыны. Беларускія металісты і гіпі. Беларускія рокмены. Прыехалі тыя, што пазней ускочылі на сцэну. Тыя, вядомыя: Віктар Шалкевіч, Алесь Камоцкі, Вальжына Цярэшчанка, Эля Бэзюк, "Новае неба", "Уліс", "Мроя", Лера Сом, "Мясцовы час", "Грамада". І невядомыя: Вольга Акуліч, Лана Медзіч, Сяржук Лаўнік, "Палац", "Крама", "Дзіда", "Сэвен Бі", "Вакзал", "Талер", "Ален".

Не ўсім лёс дазволіў прыехаць. Завяз у памежна-мытных дрыгвах наваполацкі "Грунвальд". Завязлі інструменты. Камусьці давялося адтрубіць тры ночы на ўсходняй мяжы. Гандляры праплывалі з аднаго боку на другі. А артысты чулі бясконцыя: "Нада ждаць".

## 4. СЦЭНА

"Басовішча-92" – гэта прэм'ера новай сцэны. А сцэна – гэта не толькі дошкі, збітыя ў планавую канструкцыю. Вакол тых дошак завіруе "Басовішча". І перад сёлетнім "Басовішчам" вырасла новая сцэна. У гэткім непрыглядным ускрайкавым ляску – велізарная сцэна. Белае палатно і каляровыя малюнкі,лозунгі, надпісы. Весела і ладна. Нават тады, калі дождж крышку засмуціў усе твары, сцэна каляровымі позіркамі радавала Басовішчан. Сама гэтая сцэна стала добрым зернем у глебе ўсіх будучых "Басовішчаў". Бо такая сцэна – гэта ўжо нейкая гарантыя. Але мела яна свой адзін маленькі недахоп: была голая і безабаронная. Без парасона над галавой. І сама сцэна, і Басовішчух, і арганізатары, і ўсе тыя, хто на яе глядзелі, зыркалі паціху на прыхмуранае неба. А калі пачнецца дождж? Дах сцэне абяцалі толькі праз год.

Басовішчух адведаў усіх гарадоцкіх і навакольных бабак-шаптух. Абяцалі сумеснымі намаганнямі адагнаць неспадзяваны дождж.

## 5. КУПІ, СПАДАР, ЗНАЧОК.

– Трэба купіць значок. Гэта як уваходны білет на "Басовішча".

– А, куплялі, куплялі. Толькі ў хаце засталіся. Далібог, забыліся прыхапіць...

– Значкі прадаём. Гэта білеты. І "Ніву" і "Часопіс" атрымаеце.

– Мы толькі на хвілінку заскочылі. Зараз дахаты...

– Добры дзень. Падабаюцца канцэрты?

– А як жа.

– Дык трэба такі прыгожы значок з гітарай купіць. За 30 тысяч.

– Ого, столькі грошай? Няма.

– Дык жа нейкі білет у кіно каштуе 30 тысяч. А "Басовішча" ж гэта...

Самыя безвыніковыя і безграшовыя гутаркі адбываліся ў арганізатараў з гарадоцкімі аўтахтонамі. Ну а сапраўды? Іхні лес, іхні Гарадок. І нехта яшчэ загадвае ім плаціць. Панове, пляшка каштуе болей за сорак тысяч. А тут надарылася магчымасць выпіць пару-тройку пляшак. Штовечар і кожны раз пад рознымі дрэвамі.

А імпрэза, панове, каштавала. Ой, каштавала.

## 6. БОЛЕЙ ЧАДУ!

Чаду! Чаду! Чаду! Так раўло дапазна "Басовішча". Пасля таго, як у пятніцавы вечар галоўныя арганізатары – Бася (Кучынская) і Алік (Максымюк) – урачыста і афіцыйна ўварваліся на сцэну. З шампанскім. Ну і фестываль – чаду!

"Калі гаворка пра сур'ёзны беларускі музычны рынак, дык трэба з зубамі. Я павінен зрабіць так, каб ва ўсіх вушы закруціліся, каб публіка пачала плакаць, каб дзеўкі паўскоквалі з месцаў". Гэта Віктар Шалкевіч.

Але, маючы ў руках толькі гітару, цяжка абзубаціць свае песні. І "хапнуць зубамі" публіку. Дый самотных бардаў, здаецца, тут не вельмі шанавалі. Большая частка публікі сядзела на коўдрах або проста на прытаптанай траве. І далікатна або менш далікатна слухала. Целы драмалі. Засвойванне адбывалася інтэлектуальна. Ніякай цялеснасці. Але ж гэта не канцэртная зала з фатэлікамі. Тут – неба над галавой, а пад нагамі зямля, якую можна запрасіць на танец. Ногі чагосьці чакалі. Усё цела чагосьці чакала.

Шалкевічу ўдалося. Зараўлі ён і ягоная гітара. Паказаў зубы. "Добрай раніцы, жлобская нацыя..."

"Віктар, чаду!"– крычала заведзеная публіка. Чадавым воклічам гарачыя целы ўзнагароджвалі ўсё, што ім было даспадобы. "Не выходзь, дзяўчынка мая, замуж за рокмена..." А прыстойныя беларускія рокмены гралі на сэрцах захопленых дзяўчат. Асабліва два доўгавалосыя "улісаўцы" – Вячка Корань і Сяржук Краўчанка. Ды і вакаліст "Сэвен Бі" Гена Ласко. Дык як тут пасля гэтага не галасаваць у плебісцыце за гэтыя два цудоўныя гурты? Праўда, дзяўчаты? Вось таму модным беларускім дзяўчатам больш даспадобы п'яныя рокмены, чым пастухі Аўласы з гармонікамі. Усё згодна з духам часу і Адраджэння, спадар Віктар.

Усё тут у духу часу, і таму вось танцуюць рок-н-рол дзве саракагадовыя кабеты. Нават дзядуля з маладухай прытупвае. 11-гадовы хлопец стаіць у першым шэразе перад "Улісам" і з энтузіязмам спявае разам з імі. Толькі забыўшыя на маладосць скнары падпіраюць дрэвы, смокчуць піва і паўтараюць, што гэта не для іх.

А пад сцэнай – пара, кацёл, танец. Чым бліжэй да глыбокай ночы, тым менелй абыякавасці. Экстаз прымушае юнакоў ускарасквацца на сцэну. "На такую высокую сцэну ніхто не палезе,"– меркавалі арганізатары. Аднак музыка робіць цуды. Было і гэта, і адваротнае (апошняе – гэта калі Вальжына Цярэшчанка завяршыла свой выступ эфектным скокам са сцэны).



Два папярэднія "Басовішчы" зрабілі сваю справу. Добрыя старыя баевікі ўжо можна было заспяваць сумесна. "І твая сукенка ў сінія гарошкі..." "Басовішча-92" прынесла новыя гурты."Крама" – чаду! "Уліс" – чаду! "Сэвен Бі"– чаду! Чаду! Штораз болей беларускіх рокменаў. Болей новых, добрых гітаў. І "крылатыя свінні" "Грамады" змушаныя былі адляцець у Краіну Мінулага.

"Раскажы мне пра дождж, раскажы..."– спяваў Алесь Камоцкі. Пад парасонам. Суботнім вечарам. І кожны ў той момант мог яму распавядаць пра дождж. Шкада толькі, што не самымі лагоднымі словамі. Кожную кроплю дажджу пасылалі да сотні д'яблаў. Сорамна было бабкам-шаптухам за гэты дождж.

Перад канцэртам "Уліса" і "Дзіды" неба зусім парвалася. Мо ад шкадавання, што ўжо на наступны дзень "Басовішча" павінна скончыцца, а тут ёсць нагода перасунуць пару канцэртаў на нядзелю. І гэтак жа моцна чакалі баевікоў "Уліса"... Змоклыя басавішчане збягалі пад дах старой пляцоўкі. Так, гэта тут два гады таму паказаў сваё рок-майстэрства "Уліс".

## 7. ЗАЧАДАВАНЫЯ

У нядзелю перад старой пляцоўкай стаяла афарбаваная ў нацыянальныя колеры скрыня. Кожны басавішчанін мог закінуць туды запоўнены кулон. Недзе ў кустах зашылася журы. Задумаўся пад сасною Лёнік Тарасэвіч. А Бася Пякарская (тая, што была раней Кучынскай) і гарадоцкі войт лічылі галасы.

Увага! Увага! Вынікі конкурсу! Віктар Шалкевіч – узнагароджаны саліст, "Палац" – пратэжэ "Беларускай маладзёжнай", "Сэвен Бі" – ІІ месца паводле апытання публікі, "Мясцовы час" – таксама прызёр "Беларускай маладзёжнай", "Уліс" – І месца паводле апытання публікі і прыз Лёніка Тарасэвіча, "Крама" – Гран-пры "Басовішча" і ІІІ месца паводле апытання публікі.

Апоўначы зачадаваная публіка выпусціла апошні выдых. Рок перамог. А так наогул дык "нармалёва".

## 8. "БАСОВІШЧА"— ГЭТА...

"Басовішча" – гэта фестываль музыкі Маладой Беларусі.

"Басовішча" – гэта беларускі чад.

"Басовішча"– гэта "беларуская музыка, якая з'яўляецца і крыніцай, і сродкам усталявання беларускага быту, беларускай самасвядомасці" ("Чырвоная змена").

"Басовішча" – гэта вытаптаная флора і фауна. Растаптаныя божыя кароўкі, жукі, мурашкі. Аглушаныя птушкі. Але ўсё гэта дзеля добрай ідэі. Гарадоцкія аматары шпацыру па Борыку, прабачце за фальшывыя слоўцы.

Апошняе меркаванне мае Басовішчух. "Басовішча" – гэта...

Не дагаварыў. Басовішчух пазяхнуў ды заснуў у панядзелкавы вечар на ўскрайку сцэны. "Я толькі на пару хвілінак",– шапнуў сцэне ды заснуў. Ён толькі на пару хвілінак. Бо для яго "Басовішча-92" яшчэ не скончылася. Яшчэ трэба дачакацца і гэтага, і таго... А пасля гэтага "таго і гэтага" Басовішчух паплыве плынню планаў і мараў пра "Басовішча-93". Бо для Басовішчуха "Басовішча" – гэта ягонае жыццё. Папросту.

Да сустрэчы праз год!

Дарота КУЗЬМІЧ.

Пераклад з польскай Таццяны Ермаковіч.

Фота У.Панады і З.Лукашука.



Творчасць маладога беларускага кампазітара Зміцера Яўтуховіча папулярная не толькі тут, на радзіме, але і шырока вядомая далёка за межамі Беларусі — у Польшчы, ЗША, Канадзе, дзе сам Зміцер выступаў з канцэртамі, дзе ягоныя песні гучаць на кружэлках і касетах у выкананні Данчыка, Лявона Барткевіча, Вальжыны Цярэшчанка, ансамбля "Песняры" і іншых папулярных артыстаў.

Нарадзіўся Зміцер Яўтуховіч у 1962 годзе ў сям'і музыкантаў. Ягоны бацька — скрыпач, а маці — піяністка. У 1990 годзе Зміцер скончыў кансерваторыю і аспірантуру пры ёй.

Цяпер у напісанні песень ён плённа супрацоўнічае з маладым пакаленнем паэтаў-песеннікаў: Віктар Шніп, Алесь Бадак, Лявон Пранчак.

Больш падрабязна наша газета знаёміла чытачоў з кампазітарам у публікацыі М.Шэндрык "Пад зоркаю "Пагоні" ("ЧЗ" № 25 ад 19 чэрвеня 1992 г.).

Менеджмент: Менск, вул.Гурскага, 21, п.806.

**Фота А.ДРАЗДОВА.**




## ДАСТАВАЙ, ЯЗЭП, ГАРМОНІК

**Музыка З.Яўтуховіча**
**Словы Л.Пранчака.**

Дым кастра духмяна-горкі
Над азёрамі паўзе,
У затоках дрэмлюць зоркі
Бы лілеі на вадзе.

Не сумуй, мая сяброўка,
Палыновых слёз не лі.
Завяршаецца вандроўка
Па вадзе і па зямлі.

**РЭФРЭН:**

Даставай, даставай,
Даставай, Язэп, гармонік!
Вецер сцеле туманы.
Заіграй, заіграй,
Заіграем і успомнім
Дні без тлуму і маны.

Успрымаецца іначай
Слоў і спраў былых вага:
З беспрытульнай стала нашай
Жураўлiная туга.

Так усё няскладна выйшла,
Так імкліва час прабег:
Хваляваліся за іншых
І забылі пра сябе.

**РЭФРЭН.**

Развітацца не паспелі,
Развітацца не змаглі,
Не сказалі, што хацелі,
Што на потым берaглі.

Трысьнягоў таемны шорах
Сумам сэрца апячэ.
На Браслаўскіх на азёрах
Мы сустрэнемся яшчэ.

**РЭФРЭН.**

# НОТНЫ АРКУШ

## *Спяваем па-беларуску*

### ПЕРАЖЫВУ ЗІМУ

Муз. У.Макарэвіча Сл. С.Шах




Перажыву зіму,
Вясну перагарую.
А лета абдыму —
Сустрэчу адсвяткую.
А з летам пражыву
У міры ды у згодзе,
Спасцігну сіняву,
Даверуся ясноце.

Хваробы зашапчу
Таемнаю замовай,
Каб восенню адчуць
Душу зусім здаровай.
А там ізноў свайму
Цярпенню расталкую:
Перажыву зіму...
Вясну перагарую...

## *Гіт-парад*

# МАГУТНЫ БОЖА, ДАЙ...

**Ужо болей як год існуе беларускі гіт-парад, які наша газета праводзіць сумесна з беларускай рэдакцыяй радыё "Свабода" ў Мюнхене. 1 лістапада выйшаў у эфір на кароткіх радыёхвалях ягоны 12-ы выпуск.**

●

Вось наш чарговы лідэр — Данчык (на фота). Ён ужо другім разам узначальвае гарачую беларускую дзесятку. Дый гэта ня дзіўна: поспеху спрыяюць і прыродны дар спевака, і творчая актыўнасць. Апошнім часам Данчыкавы альбомы з'яўляюцца рэгулярна — штогод. Што ж, амерыканскі беларус можа сабе дазволіць тое, што даступна не кожнаму тут. Нават "Уліс", які ад пачатку творчасці здзівіў нечаканай стабільнасцю ў гэтым сэнсе, выдаўшы на кружэлках альбомы "Чужаніца" (1989) і "Краіна доўгай белай хмары" (1990), вось ужо два гады жыве толькі канцэртамі. Так што, хоць калектыў папоўніў свой рэпертуар шэрагам новых цікавых твораў, у радыёэфіры да тройкі лідэраў падняўся стары баявік "Пляц Францыска".

Адзін з фанаў "Уліса", маскоўскі студэнт Аляксей Бука, напісаў нам: "Вашая рубрыка — адна з найцікавейшых, і вось, нарэшце, выбраўся намаляваць некалькі слоў у ваш адрас, сябры, і я. Мы тут, далёка ад Бацькаўшчыны, нашмат адстаём ад сваіх равеснікаў, якія маюць добрую магчымасць сачыць за навінкамі ў беларускай поп- і рок-музыцы. Не ведаючы, што новага ў таго ж любімага мной "Уліса", я, вызначаючы свае прыхільнасці, сыходжу з таго, што можна знайсці ў маскоўскіх крамах. А гэта пакуль толькі самы ранні альбом "Чужаніца", дзе ёсць цудоўная песня "Пляц Францыска".



Дапаўненнем да гэтых думак можа стаць і ліст механізатара з Самахвалавічаў Васіля Ключніка: "Дзіўная гэта рэч — беларуская маладзёжная музыка. У той час, як крамы завалены суцэльнай расейшчынай, па радыё і тэлебачанні з трох праграмаў навязваецца спрэс чужацтва, яна выстаяла, не знікла і патроху выходзіць на міжнародны рынак. На жаль, мне з беларускай глыбінкі да гэтага рынку не дабрацца, але на свой сціпленькі магнітафончык я назапісваў з радыёкропкі шэраг песень "Рокіса", якія слухаю з сябрамі кожны дзень і на працы, і ў хаце".

Як бачыце, кожны па-свойму знаходзіць любімыя беларускія песні. А ў выніку складаецца даволі прыстойная нацыянальная гіт-дзесятка.

Вось яна, наша табліца папулярнасці № 12.

1. "Харашуха" (беларускі фальклор). Данчык.
2. "У музеі" (П.Піскуноў—М.Скобла). "Тутэйшыя хлопцы".
3. "Пляц Францыска" (С.Краўчанка—Ф.Аксёнцаў, С.Краўчанка). "Уліс".
4. "Правінцыя" (муз. і сл. В.Шалкевіча). Віктар Шалкевіч.
5. "Які ж я беларус" (муз. і сл. З.Сідаровіча). "Грамада".
6. "Панарама-30" (А.Аляксандраў—В.Шніп). "Рэй".
7. "Кайф" (муз. і сл. С.Хамякова). "Ален".
8. "Маўклівы герой" (І.Варашкевіч—З.Лукашук). "Рокіс".
9. "Крупнік" (муз. і сл. С.Сокалава-Воюша). Сяржук Сокалаў-Воюш.
10. "Ён яшчэ вернецца" (муз і сл. калектыву). "Мроя".

Калі параўнаць вынікі гэтага гіт-парада з ранейшымі выпускамі, няцяжка заўважыць, што большага поспеху дасягаюць тыя выканаўцы, якія здолелі хоць у пэўнай меры апанаваць сродкамі масавай прапаганды музычнай творчасці: грамзапіс, радыё, тэлебачанне. Гэта і Данчык з пяццю шыкоўнымі альбомамі амерыканскіх фірм, і "Уліс", які прабіўся ў шырокі свет двойчы ("Polskie nagrania" і "Мелодыя"), і "Рэй" з "Тутэйшымі хлопцамі", якім пашчасціла хоць па адной кампазіцыі закінуць на "мелодыеўскі" дыск у зборны 2ЛП беларускага рока. Бадай, гурту "Рэй", якога вось ужо тры гады не існуе, дапамагло прасунуцца па гітлесвіцы і тое, што нядаўна Беларускае тэлебачанне ўзгадала, нарэшце, пра існаванне запісаных ім яшчэ ў канцы 80-х відэаклiпаў.

Няблага, каб над гэтым паразважалі і тыя, у чыіх руках знаходзяцца сродкі прапаганды беларускай маладзёжнай музыкі.

А нам, хто і без тых валасатых рук чуе беларускую песню, застаецца толькі прыступіць да складання новай беларускай дзесяткі. І хоць яна будзе мець 13-ы нумар, няхай ёй Бог дасць шчасце. А хто будзе гэтым Богам — Шушкевіч ці Кебіч, ці Пазьняк — мы яшчэ вырашым. Пішыце нам або ў "Чырвонку" (220041, Менск, праспект Францішка Скарыны, 77), або на Radio "Liberty" (postfach 221425, D-8000, München, Germany).

**Вінцук ГУНЕНКА.**
**Фота А.КРЫШТАПОВІЧА.**

## *Нататнік*

Гэтая love story у цэнтры ўвагі мільёнаў фанатаў чароўнай аўстралійскай зоркі эстрады.

Кілі Мінок, аб якой гавораць, што яе рост (153) адваротна прапарцыянальны яе таленту, закахана. І хаця на пытанне аб тым, калі будзе вяселле, яна адказвае няпэўна, заўсёды дадае, што вельмі жадае мець дзяцей, а значыцца, сур'ёзна думае пра шлюб.

Шчаслівы выбраннік Кілі – таксама зорка шоу-бізнесу Майкл Хатчэнс, саліст групы INXS. Кантракты, якія падпісалі дзве зоркі яшчэ да сваёй сустрэчы, выпрацавалі ім такі напружаны рытм жыцця, што закаханыя часцей за ўсё сустракаюцца ў аэрапортах, але толькі для таго, каб пабачыць адзін аднаго з хвіліну, заняць месца ў самалётах, якія адносяць іх па розных кутках свету.

У мінулым годзе ім разам пашчасціла правесці толькі Каляды. Калі Кілі ды Майклу выпадае некалькі вольных дзён, яны адразу ж садзяцца ў самалёт і ляцяць насустрач. Кілі можна пабачыць на эстрадзе, а Майкла – у глядзельнай зале ці наадварот.

Але, каханне, як вядома, не ведае межаў і не лічыцца з расходамі. Асабліва, калі закаханыя багатыя.

* * *

Чатыры хлопцы з групы "Дэпеш Мод" вядомыя ўсяму свету. Ужо дзесяць гадоў, як іх песні знаходзяцца ў спісах шлягераў, а самі спевакі, паводле іх уласнага прызнання, "стаміліся адбівацца ад прыхільніц". Дык вось, каб прыхільніцы змаглі ўзважыць свае шанцы "падчапіць" каго-небудзь са сваіх куміраў і, па-магчымасці, збавіцца ад ілюзій, спяшаемся крышку прыадкрыць тайны іх асабістага жыцця.



Дэйв Гахан нядаўна развёўся, але паспеў ужо знайсці новую сяброўку. Тэрэза, яго прадстаўнік па прэсе, рашуча заяўляе, што Дэйв яе вельмі кахае і што яна цалкам запаўняе тую частку яго жыцця, якая застаецца вольнай.

Эндзі Флэтчэр трымае сваё абяцанне сваёй нявесце Грэйн, з якой ён заручаны, калі яму было 15 гадоў, і пасля трынаццаці гадоў "жаніхоўства" мае намер у гэтым годзе ўступіць у шлюб.

Марцін Гор "сябруе" з амерыканскай студэнткай С'юзан, а Алан Уайлдэр мяркуе ажаніцца са сваёй даўняй сяброўкай, якая, праўда, старэйшая за яго на 15 гадоў і мае трынаццацігадовага сына. Аднак Алан да яго вельмі прывязаны і прымае непасрэдны ўдзел у яго выхаванні.

Ну вось, дзяўчаткі, вы, мабыць, зразумелі: сэрцы і вялізныя банкаўскія рахункі знакамітай чацвёркі з "Дэпеш Мод" пільна сцерагуць іх сяброўкі.

* * *

Беларуская папулярная музыка апошнім часам расце і колькасна, і якасна. Узнікаюць у маладзёжным асяроддзі і новыя творчыя праекты.

Для ажыццяўлення падобных праектаў аднаму з менскіх пачынаючых кампазітараў патрабуецца дапамога паэтаў. Адзін праект – у стылі "дыска" (вакал дзявочы); другі праект – у стылі "рэп" (вакал хлапечы). Вершы павінны быць, натуральна, на беларускай мове. Хто здольны і мае на тое жаданне, пакіньце свае каардынаты, пазваніўшы па тэлефоне 48-96-12 Зміцеру (з 15 да 17 гадзін, акрамя выхадных).

* * *

Яшчэ дзве менскія бібліятэкі (імя Янкі Купалы і дзіцячая імя Янкі Маўра) атрымалі ад нью-йоркскага беларускага выдавецтва "БІНІМ" з аўтарскага фонду некалькі экземпляраў кнігі В.Мартыненкі і А.Мяльгуя "Праз рок-прызму". Так што: калі хочаце ведаць беларускі рок у кантэксце сусветнага – маеце шанц. Наведвайце беларускія бібліятэкі.

##  *Фанатэка*




**"ДЗІДА"**
**"КАЛІ ЛАСКА"**
**Максім, 1992**

Гэта акурат той альбом навапалацкага трэш-металёвага гурта, які з поспехам прадаваўся (у форме кампакт-касеты) на фестывалі "Басовішча-92" у Польшчы. Запіс і распаўсюджванне праграмы музыканты "Дзіды" наладзілі з дапамогай адной з самадзейных гуказапісных студый Полацка.

І хоць большасць нумароў праграмы знаёмыя па ранейшых альбомах (напрыклад, "Кніга мерцвякоў" і "Стрэсатэрапія" паходзяць з кружэлкі "Тыя з вас, хто застанецца жывы, будзе зайздросціць мёртвым", 1990; а "Поскудзь", "Цыністы калі", "Ты душу прадаў сатане" – з касеты пад назвай "Поскудзь", 1991), акурат гэтую праграму можна лічыць арыгінальнай і непаўторнай. Ва ўсякім разе той, хто пільна збірае ўсе запісы беларускага трэш-металу, не ўспрыме яе як непатрэбную таўталогію. Справа вось у чым: калі два першыя альбомы ўяўляюць сабой студыйныя праграмы (анатацыю на адну з іх чытачы "Нотнага аркуша" знойдуць у "ЧЗ" за 21 чэрвеня 1991 года), дык трэці альбом прадстаўляе live recording, запісы жывых канцэртаў.

Прызнацца, запісы гэтыя ўражваюць: і арыгінальным музычным мысленнем удзельнікаў гурта, і неўтаймоўнай, энергічнай рэакцыяй публікі. Ставіш касету ў дэку і з дынамікаў разносіцца пераканаўчы роў шматтысячнага натоўпу, скрозь які спачатку квола, а потым усё больш упэўнена і, нарэшце, магутна гучыць зменлівы каскад прыгожых мелодый, звязаных у экстатычны ланцуг трэшавага драйву.

Уключае альбом "Калі ласка" і колькі новых кампазіцый :"Вялікая сіла", "Душы ў палоне". У іх праявілася яшчэ больш выразна схільнасць да такога трэш-напрамку, як гард-кор.

Пад час запісу гэтай праграмы гурт "Дзіда" працаваў у сваім традыцыйным складзе: Валеры Воліс (вакал, рытмгітара, тэксты), Зміцер Шумко (лідэргітара), Уладзя Крусанаў (бас-гітара), Уладзя Дзёмін (бубны).

Распрацоўкай мастацкага афармлення вокладкі альбома музыкі займаліся самі, узяўшы за аснову фірменны лагатып назвы калектыву – "Дзіда".




**"СЛЭЙД"**
**"СЦЯНА ГІТАЎ"**
**2ЛП Полідор, 1987**

У канцы 70-х гадоў, калі сусветнавядомы брытанскі рок-гурт "Слэйд" бадзяўся дзесьці ў пары сотняў кіламетраў ад нас (у Варшаве), а мы "дзякуючы" жалезнай заслоне не маглі на яго паглядзець і паслухаць, вакаліст, гітарыст і скрыпач калектыву Джым Лі нечакана бомкнуў журналісту газеты "Штандар млодых": "Раней мы гралі ціхэй, але калі пабачылі, як захоўваюцца людзі на канцэрце Чака Бэры, у якую самаадданую захопленасць упадаюць, як заходзяцца хвалямі ў агульным рытме, дык зразумелі, што менавіта такую музыку хочам граць".

Што гэта за музыка? Адзін наш рок-мэтр тады ж, у канцы 70-х, назваў яе "футбольнай музыкай", прадракаючы славутым "Слэйдам" недаўгавечнае жыццё. Гісторыя распарадзілася іначай: віртуозны рок-н-рол у сінтэзе з бугі-вугі, які рабілі хлопцы са "Слэйд" дваццаць, пятнаццаць гадоў таму, масава тыражуецца шматлікімі фанаграфічнымі фірмамі Еўропы. У адной толькі згаданай вышэй Польшчы падвойны зборнік лепшых кампазіцый розных гадоў выдаваўся ў 1992 годзе двойчы (фірмамі "MG records" і "Takt music").

Бадай, большую ўвагу слухачоў на гэтай зборцы прывабяць раннія "Слэйды". Асабліва, калі гэта старыя рок-фаны, настальгію па маладосці якіх не могуць не выклікаць творы "Зважай, што ты робіш", "Бывай, Т.Джэйн", "Як табе гэта падалося" і г.д.

З твораў больш позняга перыяду немалую папулярнасць набылі незвычайныя для гэтага калектыву гімнападобныя кампазіцыі "О маё...", "Радыёсцяна стылю", якія былі створаныя ўжо ў 80-х гадах.

"Слэйд" памёр, але жыве "Слэйд". Зарана яго сёй-той пахаваў. Шкада толькі, што мы ўжо не вернем сабе магчымасці палюбавацца эфектным шоу, у якім, бадай, цэнтральным героем сцэны з'яўляўся лысы басіст Дэйв Гіл з вялікім кальцом у правым вуху.

Усе кампазіцыі "Слэйд" належаць аўтарству Джыма Лі, а тэксты да іх пісаў другі гітарыст Ноды Голдэр. Выключэнне складае (у прыватнасці, на гэтым 2ЛП) песня "Кінь і падымі гэта", якую напісаў Т.Марчэнд.



**"БІТЛЗ"**
**"НЯХАЙ БУДЗЕ ГЭТАК"**
**Эпл рэкордс, 1970**

Фільм з такою ж назвай – "Няхай будзе гэтак" – крытыка назвала ў свой час "новай фазай у творчасці "Бітлз".

На жаль, неўзабаве выявілася, што найменне гэтай фазы – "фінал". На гэтым альбоме арыгінальная дыскаграфія "Бітлз" спынілася.

Неад'емны ад зместу фільма, альбом "Let it be" ўтрымлівае многія з тых запісаў, якія і рабіліся менавіта да кінастужкі. Іхняя характэрная рыса – цеплыня і свежасць жывога музіцыравання, узноўленыя для кружэлкі вядомым гукарэжысёрам Філам Спектарам.

На беларускі рынак (менавіта ў масавай колькасці) гэты альбом трапіў у расейскім ("Антроп", 1992) і польскім ("Экстон", 1990) перавыданнях. Абодва, трэба прызнаць, імкнуліся найбольш блізка перадаць дух арыгінала: тут няма скарачэнняў, выкрыўленняў мастацкай аздобы. Але паколькі "антропаўская" версія, хаваючыся ад кары за безліцэнзійнае пірацтва, наўмысна пераблытала парадак кампаноўкі структуры альбома, ды яшчэ награшыла ў перакладах назваў асобных кампазіцый, мы возьмем за аснову выданне фірмы "Exton".

Першы бок адкрывае загалоўная песня, надзвычай папулярная, але, бадай, не самая вядомая з альбома. Далей – "Калі ты сумуеш", адкінутая нашымі выдаўцамі з усходу бліжэй да фіналу. Завяршаюць першы бок "Двое з нас", "Пракачу на поні", "Праз Сусвет", якімі фірма "Антроп" чамусьці вырашыла распачаць альбом.

Пачатак другога боку – сусветны супер-гіт "Я мне свой". З ім звязаны амаль цэлы анекдот савецкай бітламаніі. Калісьці фірма "Мелодыя" выпусціла гэты твор на мін'ёне, пераклаўшы назву... на слых. Замест "I me mine" ім здалося "I, me, my", таму выйшла ў выніку "Я, мне, маё", з-за чаго камуністычная прэса 70-х гадоў абвінавачвала "Бітлз" у апяванні хабарніцтва, сквапнасці. Што самае дзіўнае, і "Антроп" на сваім выданні ліша пад гэтай кранальнай, прыгожай мелодыяй: "Я, мне, маё".

"Зразумей" і "Мэджы Мэй", у адрозненне ад размешчанай між імі "Я адчуваю", якую (зрэшты, і ўсе іншыя песні) напісалі Джон Ленан і Пол Макартні, маюць аўтарамі ўвесь гурт (гэта яшчэ Джордж Гарысан і Рычард Старкі).

З невялікім несупадзеннем у месцах дыслакацыі на двух выданнях ідуць побач "Пасля 909-га" і "Доўгая ды слізкая дарога".

Адно, што аб'ядноўвае ўсе гэтыя версіі папулярнага альбома славутых "Бітлоў", дык гэта тое, што завяршаецца ён дынамічнай кампазіцыяй "Вяртайся".

Застаецца дадаць пару слоў пра мастацкую аздобу. Ейнай распрацоўкай займаўся Джон Кош, выкарыстаўшы здымкі Ітана Расэла.



# ПРАЦЯГ БУДЗЕ



(Пачатак у №№ 34-36, 38–45).

## РАЗДЗЕЛ 5

*Серада, 23 сакавіка 1983 г.*
*Калбаскава — Варшава.*

— Польская межавая служба, папрашу дакументы, — сказаў, адсалютаваўшы пагранічнік, адчыніўшы дзверы грузавіка з заходненямецкім нумарам, што спыніўся на кантрольнай стаянцы.

Карл Шуберт спыніў рухавік і пацягнуўся на суседняе сядзенне за пачкам папераў. Пашпарт, міжнародныя правы, дакументы на машыну і на груз даўно былі гатовыя да кантролю. Быў знаёмы з гэтай працэдурай ужо шмат гадоў, з часу, калі пачаў працаваць у гамбургскай транспартнай фірме, якая займалася перавозам грузаў па ўсёй Еўропе. На працягу апошніх трох гадоў гэта быў яго пяты рэйс у Польшчу. Не любіў гэтай трасы. Не таму, што не любіў палякаў. Нават паважаў іх за тое, што яны першымі настолькі яўна выступілі супраць камуністычнага ўрада. Не любіў складанай працэдуры пераезду мяжы, якая часам цягнулася некалькі гадзін, і гэтых падазроных позіркаў чыноўнікаў на пераездах. Там, у Еўропе, такую сітуацыю цяжка было ўявіць.

На гэты раз усё заняло ледзьве некалькі хвілінаў.

Пагранічнік з зоркамі паручніка на пагонах зялёнага кіцеля хутка прагледзеў пададзеныя дакументы. Прывычна прабегшы па патрэбных пунктах, ён без слова паставіў на пашпарт чырвоную пячатку з датай і месцам пераезду мяжы.

Ён быў ужо на тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі.

— Яшчэ сустрэча з мытнікамі і — усё, — падумалася яму.

— Што пан вязе? — прагучала стандартнае пытанне.

— Падарункі для нейкага касцёла ў Варшаве, — адказаў ён на ламанай польскай мове (спадчына ад бабулі-палячкі). — Харчаванне, адзенне, лекі, — растлумачыў ветліва.

Сталага ўжо веку мытнік пачаў уважліва чытаць суправаджальны вопіс грузу. Усё было ў парадку. Рэчы сабраны яшчэ ў Гамбургу, а атрымаць іх мелася адна з варшаўскіх парафіяў. Зірнуў: ці не пашкоджаныя пломбы, прывешаныя ў Заходняй Нямеччыне. Ніякіх прэтэнзіяў не было. Мусіў яшчэ дакладна агледзець кабіну кіроўцы і ягоны асабісты багаж, але махнуў на гэта рукой. Праўда, за апошнія некалькі месяцаў інструкцыі ці раз нагадвалі пра неабходнасць гэтага кантролю, бо павялічылася колькасць выпадкаў нелегальнага прывозу ў Польшчу паліграфічнага абсталявання, паперы і замежных выданняў, не падпарадкаваных польскай цэнзуры. Усё, зразумела, для дзеячаў у падполлі "Салідарнасці". Але мытнік быў стомлены шматгадзіннай працай, блізіўся час абеду, а ў чарзе чакала яшчэ некалькі машын. Да таго ж гэты кіроўца не выглядаў падазроным.

— Дзякуй, — адсалютаваўшы, ён аддаў у кабіну паперы. — Усё ў парадку, можаце ехаць далей. Добрай дарогі і прыемнага наведвання Польшчы.

Шуберт пакруціў ключ. Рухавік, нягледзячы на тое, што меў за сабой звыш двухсот тысячаў кіламетраў, запрацаваў адразу. Ішла амаль восьмая гадзіна, а наперадзе было больш за пяцьсот кіламетраў. Падумаў аб начоўцы. Меў добры ложак у кабіне, але перад ягонымі вачыма стаяў гарачы душ. Вырашыў даехаць да бліжэйшага матэля і там узяць пакой з лазенькай.

Спыніўся ўжо праз некалькі кіламетраў. Запаркаваў машыну, забраў з сабой дакументы і асабістыя рэчы.

Матэль аказаўся неблагім. Было бачна, што збудавалі яго зусім нядаўна з думкай пра такіх, як ён: паркінг, на якім магло змясціцца мноства грузавікоў, маленькі бар на першым паверсе, што працаваў цэлыя суткі, каля трыццаці адна- і двухасабовых пакойчыкаў, абсталяваных сціпла, але з густам.

— Hello, man. My name is twenty dollars, — паспрабавала затрымаць яго перад уваходам нейкая маладая дзяўчына.

— Смаркачка, — падумаў ён. — Гэта, пэўна, адна з тых польскіх дзяўчын, пра якіх так шмат распавядалі на базе іншыя кіроўцы, што вярталіся з Польшчы ў Гамбург.

Драйвэр-гэрлс, дзяўчыны для кіроўцаў, прапаноўвалі заходнім шафёрам разам правесці ноч толькі за дваццаць даляраў. Выдатак для кіроўцаў смешна малы, а для іх — месячны заробак на дзяржаўным прадпрыемстве. Калі знаходзілі аматара, хутка зніжалі і так ужо нізкія цэны. Шмат хто задавальняўся некалькімі парамі заходніх калгот, касметыкай ці таннай парфумай.

— Hi, man, — паклікала яго яшчэ раз, калі праходзіў побач з ёй з абыякавым выразам твару. — Only ten dollars!

— Sorry, no, thanks, — сказаў ён, паспрабаваўшы ўсміхнуцца, але з раздражненнем.

Яўна расчараваная паненка нешта буркнула сабе пад нос наконт ягоных сексуальных магчымасцей, але гэтага ўжо не зразумеў. Дзяўчына засталася на паркінгу, чакаючы свайго Рамэо на адну ноч.

Ён пакінуў пашпарт у дзяжурнага, узяў ключ ад пакоя і адразу пайшоў наверх. Пастаяў пад душам, з'еў прынесеную з машыны вячэру і лёг спаць. Хутка заснуў.

Прачнуўся ад званка тэлефона, што стаяў на століку ложка.

— Хэло, — адазваўся ён заспаным галасам.

— Дзень добры, вы прасілі пабудзіць вас а шостай, — прагучаў у слухаўцы прыемны жаночы голас.

Менш чым праз гадзіну ён, памыўшыся, пагаліўшыся і паснедаўшы, ехаў у накірунку Варшавы. Яснае сакавіцкае неба і пустая шаша. Цягнула мацней націснуць педаль газу, але ён памятаў пра ўсталяваны ў машыне тахограф, які рэгістраваў час і хуткасць язды. Толькі зрэдку мог дазволіць сабе зрабіць разгон, хаця гэта толькі на некалькі хвілін прыспяшала прыезд.

Было ўжо цёмна, калі пад'ехаў да Варшавы. Неасветленыя вуліцы сталіцы еўрапейскай дзяржавы выглядалі дзіўна, але праз некалькі хвілін святло ртутных лямпаў рассеяла пануючую навокал цемру.

З'ехаў на бок вуліцы, уключыў пульсуючыя апельсінавым святлом аварыйныя сігналы. Выцягнуў куплены колькі год таму план Варшавы і пачаў шукаць вуліцу, на якую павінен быў даставіць сабраныя ў ФРН падарункі. Пакуль ён дабраўся куды трэба, давялося яшчэ добрыя паўгадзіны кружыць па вуліцах сталіцы.

Варшава ніколі не ўражвала яго. На вузкіх, дрэнна размечаных вуліцах чуў сябе як чалавек з вялікага горада, які раптам апынуўся ў сярэдзіне бразільскіх джунгляў. Не мог паразумецца, Толькі нешматлікія са спыненых трохі разумелі панямецку альбо па-ангельску. Да таго ж у гэты час (была амаль дзявятая гадзіна вечара) сталіца падавалася вымерлым горадам. Зрэдку па ходніку крочыў запозненны прахожы. Было ціха і шэра. А ў ягоным родным Гамбургу толькі ў гэты час пачынала біцца сапраўднае жыццё і разгарацца феерыя ззяючых усімі колерамі рэклам.

Ніхто не чакаў яго і ля касцёла. Брама была ўжо зачыненая. Ён пачаў ужо разважаць, дзе шукаць начлег, калі ў цемры заўважыў гузік дамафона ля брамы. Націснуў першы трапіўшы пад руку клавіш. Пасля тлумачэнняў нехта выйшаў да яго з плябані.

— Мы не чакалі вашага прыезду ў такі час, — растлумачыў Шуберту ксёндз, калі праз паўгадзіны той еў паспешліва згатаваную вячэру. — Кладзіцеся спаць, а заўтра зранку некалькі чалавек зоймуцца разгрузкай.

Яго шчыра кранула гасціннасць гаспадароў. Каўбаса з Захаду, расейская ікра, французскі каньяк і польская гарэлка. Па-іншаму ўяўляў сабе згаладнелую Польшчу, пра якую так зычна крычалі польскія ўцекачы над Эльбай.

Прачнуўшыся ўранні, праз акно ён убачыў групу мужчын, што прыйшлі разгружаць запаркаваны побач грузавік. Пэўна, яны не хацелі перашкаджаць сну стомленага доўгай дарогай кіроўцы. Ён ускочыў на ногі, прамыў вочы і, шпарка апрануўшыся, пайшоў да машыны. Заднім ходам пад'ехаў да будынка, у які мелі быць складзены прывезеныя ім рэчы.

Мужчыны адразу ўзяліся за працу. Амаль васьміметровай даўжыні прычэп ці не пад самы дах быў запоўнены скрынкамі з шэрага кардону. Пакаванне сабраных у Гамбургу рэчаў каштавала немцам два дні цяжкай працы.

Да Карла Шуберта, які стаяў пры машыне, падышоў малады мужчына.

— Я Леон Квяткоўскі, — прадставіўся ён па-нямецку, падаўшы яму руку.

— Карл Шуберт, — адказаў той на прывітанне. — Прыемна пазнаёміцца з панам.

— Пэўна, яшчэ будзе нагода, але я ўжо цяпер хацеў бы вам падзякаваць за ўсё тое, што вы прывезлі. І прашу перадаць словы падзякі вашым землякам, якія выказалі такую сардэчнасць. Сапраўды, кожны транспарт для нас вельмі цэнны. Урэшце, няма чаго вам тлумачыць. Вы ў Польшчы не першы раз і, канешне, разумееце нашае становішча.

— Так, — згадзіўся немец. — Ваш край ёсць, бадай, адзіны ў Еўропе, калі не лічыць Расеі, дзе каб набыць нешта ў краме, патрэбныя карткі.

— Дакладна. Да таго ж не ўсе маюць грошы, каб выкупіць тое, што ім належыць.

— І што тады робяць? Хіба галадаюць, але ў Польшчы жабракоў я не бачыў.

— Не, усё не так яшчэ дрэнна. Стараемся ім дапамагчы. Напрыклад, тое, што вы сёння прывезлі, будзе размеркавана паміж найменш забяспечанымі.

У гэты момант Квяткоўскі мусіў прызнацца сам сабе, што не кажа немцу ўсяе праўды. Не мог казаць пра тое, што найбольш каштоўныя лекі, адзежа і абутак будуць схаваныя ў спецыяльным складзе, доступ да якога маюць толькі пробашч і давераныя парафіяне. Гэта яны зробяць першы, дакладны перагляд прывезеных падарункаў, выбраўшы сабе найбольш каштоўныя, лепшыя рэчы. Толькі потым рэшткі, прызнаныя непрыдатнымі, будуць раздадзены людзям. Так! Не трываў такой практыкі, але ж сам з яе меў выгаду. Ужо некалькі месяцаў ён і ягоная сям'я карысталіся выключна заходняй касметыкай, а ў спажывецкіх крамах куплялі толькі хлеб. Амаль усё, патрэбнае для харчавання, — алей, мяса, птушку, нават ласункі, — прывозілі з касцёла. Ужо колькі разоў усяго гэтага збіралася так шмат, што не столькі з сардэчнай дабрыні, колькі з разважлівасці (неразумна было б выкідаць хоць нешта ў смецце) яны дзяліліся лішкам падарункаў са знаёмымі альбо суседзямі.




Квяткоўскі ўжо два гады меў цудоўныя адносіны з касцёлам. Усё жыццё ставіўся да рэлігіі хутчэй абыякава. Не, не быў атэістам, лічыў сябе непрактыкуючым вернікам. Да касцёла наблізіўся толькі два гады таму. Не так з нечаканай патрэбы сэрца ці духоўнага пераўтварэння... Прычыны зменаў былі больш празаічнымі. Заўважыў, што ў асяроддзі апазіцыйных дзеячаў, да якога ён належаў, усё часцей пачынаюць падкрэсліваць свае рэлігійныя перакананні. Меў некалькі знаёмых, якія яшчэ ў 1980 годзе былі ўзорнымі сябрамі кіруючай сілы народа, а ўжо ў 1981 зрабіліся актывістамі парафіяльнага руху. Ён шкадаваў такіх людзей — да часу, пакуль сам не стаў такім самым, калі нечакана ўспомніў пра імшу і сакраманты, калі пазнаёміўся і хутка наладзіў добрыя адносіны з мясцовым пробашчам.

Ксяндзу спадабаўся малады адвакат, ужо добра вядомы ў коле дзеячаў апазіцыі. Меў кантакты і знаёмствы, якія заўжды маглі прыдацца. Калі ў 1980 годзе ў Польшчу рушыла лавіна дароў, папрасіў ягонай дапамогі. Квяткоўскі ўладжваў справы з чыноўнікамі, пісаў лісты да нямецкіх ахвярадаўцаў, дапільноўваў справядлівага падзелу дароў.

Не рабіў таго за адну падзяку... Летам мінулага году атрымаў, здаецца з Францыі, новы мікрааўтобус. Машына была зарэгістраваная як уласнасць кіраванага законніцамі інтэрната для сляпых дзяцей у Ласках пад Варшавай, але фактычным яго ўласнікам і гаспадаром быў Леон Квяткоўскі. Сапраўды, прыязджаў у Ласкі на кожную просьбу кіраўніцтва інтэрната, але ўжо праз некалькі месяцаў лічыў аўта сваёй уласнасцю.

Сёння з самага ранку прыехаў да касцёла, каб дапільнаваць разгрузку ўжо хіба шостага ў гэтым месяцы транспарта з дарамі. Адразу пасля таго планаваў заехаць у Ласкі, каб адвезці новую порцыю лекаў, прысланых з Гамбурга. Спяшаўся, бо а другой гадзіне ўжо трэба прысутнічаць на разглядзе судовай справы, на якой мусіў выступаць як дзяржаўны абаронца. Развітаўся з кіроўцам і людзьмі пры машыне. Пагрузіў у мікрааўтобус тры пакункі з лекамі і некалькі пар джынсаў для дзяцей. Нават калі будуць завялікія, жонка прадасць іх, як заўсёды, на кірмашы, як тыя апошнія французскія швэдры.

*Завод "Урсус",*
*той самы дзень, службовы гатэль.*

Дэлегаты дзеючых ў падполлі адзінак "Салідарнасці" найбольшых прадпрыемстваў Варшавы на гэты раз месцам збору абралі адзін з пакояў службовага гатэля "Урсуса". Сярод іншых быў Зыгмант Кавальчык. Выглядаў так, што спачатку яго ўвогуле не пазналі: змяніў фрызуру, а трохі адбеленыя цёмныя валасы нагадвалі сапраўдную сівізну немаладога ўжо мужчыны. Адгадаваў вусы, некалькі дзён не галіўся. І яшчэ кіёк, на які ён апіраўся, павольна, амаль з намаганнем робячы крокі.

— Чулі апошнюю показку пра забітага міліцыянта? — спытаў мужчына ў рабочым адзенні. — Не? Дык паслухайце...

Судзяць тыпа, які задушыў міліцыянта.

— Як гэта адбылося, — пытаюць у яго.

— Высокі суд, гэта было так... Спачатку ён стукнуў мяне па спіне гумавым дручком. Калі я спытаў, за што — ён засмяяўся і сказаў "Першае красавіка!" Дык я плюнуў яму ў твар, сказаўшы "Каб не сурочыць". Але калі ён загасіў у мяне на лбе цыгарэту са словамі "папяльцовая серада", я не вытрымаў і з крыкам "Дзень задушны!" схапіў яго за горла...

— Ну, хлопцы, досыць жартаў, — прабіўся праз гоман размоваў голас гаспадара пакоя. Учора я бачыўся з нашым ксяндзом. Ён ужо гаварыў з біскупам наконт падарунка Папу. Курыя таксама "за".

— Можам даць яму мадэль новага "Паланеза". Хлопцы з мадэлярні пачалі рабіць яго яшчэ для Герэка, але не паспелі...

— Сядзі ціха, Франак, мы тут пра сур'ёрныя рэчы, а ты сабе жартуеш, — спыніў яго нехта.

— Можа зрабіць мадэль трактара "Урсуса" з надпісам "Салідарнасць" ва ўсю даўжыню, — прапанаваў нехта іншы.

Не, бяспека гэтага не прапусціць. Дарэчы, трактар. Гэтаксама хлопцы з упраўлення транспарту маглі б прапанаваць нейкі трамвай. Гэта мусіць быць нешта сімвалічнае, як у Сьлёнску: выразаны з вугалю гарняк.

— Дадзім яму фігуру работніка, але такога, сапраўднага. Не такога святочнага, якога яны заўсёды рабілі, але такога, які выходзіць пасля васьмі гадзін працы з завода.

— І як мусіць выглядаць? — спытаў нехта.

— Павінен быць сагнуты, змарнелы. Можа, напрыклад, выціраць рукой спацелы лоб. Святы Айцец зразумее!

— А ты што думаеш? — спытаў нехта Кавальчыка, які моўчкі прыслухоўваўся да гэтай дыскусіі.

— Добра, вельмі добра. Мне падабаецца... Але я маю да вас просьбу, хлопцы. Усё жыццё марыў, каб хоць на хвіліну апынуцца паблізу Святога Айца. Дазвольце мне быць адным з тых, хто будзе ўручаць гэты дар, — папрасіў ён.

— Але ж цябе шукае бяспека! Акрамя таго, кожны хацеў бы... — запратэставаў нехта збоку, але іншыя яго не падтрымалі. Хто-хто, а Зыгмант меў на гэта права пасля ўсяго таго, што дзеля іх і ад іхняга імя зрабіў.

— А, шукаюць! Маюць толькі мой здымак з "інтэрната", — пераконваў Зыгмант, адчуваючы, што большасць за ім. Цяпер я маю надзейныя дакументы настолькі, што мяне ўжо тройчы правяралі і адразу ж пускалі. Ды самі ж бачыце: штодзень хаджу па горадзе — і нічога...

*Варшава, той самы дзень.*

— Пётрэк! Хадзі сюды, хутчэй! — крыкнуў Кавэцкі.

— Ужо лячу, пан майстар.

Павел Кавэцкі быў вядомы як адзін з лепшых варшаўскіх злотнікаў. Свайму майстэрству навучыўся яшчэ да вайны, а цяпер рыхтаваў сабе змену. Сёння раней, чым звычайна, схаваў у шафу інструменты. Была другая гадзіна, і да закрыцця майстэрні заставалася яшчэ пяць гадзін. Тым не менш спяшаўся, бо праз паўгадзіны пачынаўся сход у цэху. Не ведаў чаму, але ягоная прысутнасць была неабходнай.

— Сыходжу на дзве гадзіны, — кінуў ён у бок памочніка. Паназірай пакуль за майстэрняй. Калі хто да мяне прыйдзе, скажы, што я абавязкова вярнуся да закрыцця.

Завязаў гальштук, апрануў святочны касцюм. Зашпіліў плашч, бо сакавіцкае сонца амаль не грэла, надзеў на галаву старамодны капялюш і сеў у машыну, што стаяла побач.

— Ну, сябры, маю для вас добрую навіну, — павітаў іх старшы ў цэху.

Ці не зменшылі, нарэшце, тыя халерныя падаткі? — мільганула ў галаве ў Кавэцкага.

— Дэлегацыя варшаўскіх майстроў будзе падносіць Святому Айцу ахвярныя дары, — працягваў старшы. — Усё ўжо ўзгоднена з Касцёлам. Мы доўга меркавалі, што магло б быць для яго асабліва прыемным і спыніліся на шахматах. У гэтым годзе споўніцца трыста гадоў віленскай дапамозе, дык сярод шахматных фігур будуць кароль Сабескі, каралева Марысенька і нават турэцкі візір. Фігуры вышынёй у некалькі сантыметраў будуць зробленыя са срэбра. Выдатак будзе вялікі і трэба б зрабіць скідку.

Пераклад з польскай
У.ПАНАДЫ.

(Працяг будзе).

*Пра "гэта"*

## ЧЫМ ПАХНЕ "КРОКУС"?

Вам хочацца хоць на гадзінку адцягнуць сваю ўвагу ад праблем рэчаіснасці? Звярніцеся ў камерцыйны кіёск, заплаціце пяць рублёў і атрымаеце на рукі малюсенькую рэкламную кніжачку інтым-сервіса "Крокус". Калі верыць рэкламе, супрацоўнікі "інтымнай" фірмы – людзі дастаткова творчыя, каб задаволіць самыя разнастайныя патрабаванні кліентаў. Паслугі "Крокуса" (а яны, здагадваюся, разнапланавыя) сціпла падаюцца як "эратычны масаж" і прызначаюцца (пра што няцяжка здагадацца) людзям нябедным.

Набіраю нумар "дыспетчара" і да апошніх імгненняў сумняваюся, – можа, гэта розыгрыш? Прыемны мужчынскі голас цікавіцца, чаго я хачу. Адчуваю, што чырванею перад тэлефоннай трубкай (гэта наша спрадвечная закамплексаванасць!), але пытаюся:

– А жанчынам фірма аказвае свае паслугі?

– Калі пажадаеце – прышлём вам "хлопчыка" ў адпаведнасці з вашымі густамі.

Прыкідваюся дурніцай:

– А што азначае "эратычны масаж"? Гэта сапраўды мае нейкае дачыненне да масажу ці...

– Масаж ці не масаж – будзе залежаць ад вашага жадання. Вы камандуеце парадам...

– Як вы мяне абнадзеілі!

– Не тое слова! Для жанчыны з такім прыемным голасам мы падбяром самага лепшага супрацоўніка. Вам падабаюцца мужчыны атлетычнага складу?

– Я яшчэ падумаю, – паспешліва кладу трубку.

Праз некалькі хвілін зноў тэлефаную і пытаюся, ці прымуць яны на працу замужнюю жанчыну. У адказ чую:

– Калі вас гэта пытанне не хвалюе, нас – тым больш...

Ну мяне, скажам, яно ўсё ж хвалюе. Але навошта правакаваць забароненыя жаданні? Можа, муж калі-небудзь у камандзіроўку паедзе... А калі я з'еду? А ён застанецца сам-насам з тэлефонам "дыспетчара"? І з цікавасці пазвоніць...

Толькі прычым тут нейкі "Крокус"? Яму ж яшчэ плаціць трэба, квітанцыю афармляць... Хіба інтым-сервіс вінаваты ў нетрываласці сямейных сувязей? І акрамя яго знойдзецца шмат жадаючых "аформіць" усё па вышэйшаму разраду, і прычым – бясплатна... "Крокус" працуе не на Гіменея – гэта відавочна. Але, магчыма, ён з'явіцца якраз тым самым стымулам, які падштурхне мужа і жонку да творчасці ў сваім уласным ложку. Хаця б з-за боязі патэнцыяльнай канкурэнцыі.

Н.КАРПЕНКА.

# СЛУЖБОВЫ РАМАН

## – З'ЯВА НЕБЯСПЕЧНАЯ, ЯК І ЛЮБЫ ІНШЫ, ЁН ПАТРАБУЕ АХВЯР...

ЗНАЁМЫЯ пытаюцца: адкуль ты бярэш тэмы для сваіх артыкулаў? Дзіўныя людзі ... Ды з жыцця, адкуль яшчэ? Яно такое складанае і непрадказальнае, што раніцай нельга з упэўненасцю гаварыць пра тое, што будзе вечарам. Я, напрыклад, ужо даўно нічога не планую далей наступнага дня, ды і тое не заўсёды. Бо ўвесь час чакаю ад жыцця сюрпрызаў. Калі хочаце, пра кожнага без выключэння мужчыну можна напісаць прыгодніцкі раман (з умовай, што гэты мужчына захоча тое-сёе пра сябе расказаць). Пра жанчыну таксама можна напісаць раман. Службовы... Толькі не спадзявайцеся тут на "хэпі-энд". Пра які шчаслівы канец можна гаварыць, калі твой шэф адной рукой цябе абдымае, а другой трымае дзверы, каб не ўсунуліся, крый божа, падначаленыя?

Тэма гэта, дарэчы, цікавіла мяне даўно. Некалі за сняданкам, прабягаючы вачыма "прэсу", натыкнулася на маленькую інфармацыю пра тое, што ў Злучаных Штатах жанчына мае права падаць заяву ў суд на свайго "боса", калі ён выкарыстоўвае службовае становішча ў неслужбовых мэтах, інакш кажучы, чапляецца да жанчыны з "цікавымі" прапановамі. Прычым, ёй зусім не абавязкова шукаць для гэтага сведкаў, якім пашчасціла назіраць "шэфавы" заляцанні. Суд схіляецца да думкі, што ў такой тонкай справе жанчына не можа схлусіць, таму што ў першую чаргу рызыкуе "падмачыць" менавіта сваю рэпутацыю.

У нас службовых раманаў заводзіцца не менш, а, упэўнена, значна больш, чым у далёкай Амерыцы. І часта зусім без узаемнага жадання з боку прыгожага полу. І не таму, што ў жанчыны поўнасцю адсутнічае гонар, павага да сябе, а па прычынах іншых, вам усім добра вядомых.

І што? А нічога. Дзеля цікаўнасці затэлефанавала ў гарадскі суд, адарвала вельмі важных асоб ад сур'ёзнай працы і запыталася пра колькасць судовых спраў ці заяў, звязаных са схіленнем да сужыцця падначаленых жанчын вышэйстаячымі асобамі мужчынскага полу. На тым канцы проваду нават разгубіліся ад нечаканасці, потым падумалі крыху і адказалі: дакладна не ведаем, але апошнія шэсць год такога не было.

Нічога іншага, прызнацца, не чакала. Мы што (маю на ўвазе жанчын) — самагубцы? Якая дурніца пабяжыць сёння ў суд з падобнай заявай? А доказы? А сведкі? Хто бачыў, як ён зачыніў за вамі дзверы кабінета і за гэтымі дзвярыма пачаў вытвараць непрыстойнасці? Ніхто? Ну што-о ж вы та-ак... Паклікалі б на дапамогу супрацоўнікаў... Грамадства таксама настроена ў асноўным асуджальна: навошта, маўляў, было апранаць на работу празрыстыя кофтачкі і спадніцы "ў абцяжку"? На работу прыстойныя жанчыны ходзяць інакш.

Прыкладна так абстаяць справы. Калі не верыце, спытайце ў любой знаёмай вам прывабнай жанчыны. Я аднаго разу спытала. І патрапіла, што называецца, у самую кропку.

У Марыны — інтэлігентная прафесія з творчым ухілам. У падрабязнасці ўдавацца не будзем, тым больш, што гэта не так важна. Скажу толькі, што са сваім "шэфам" яны сядзяць у розных кабінетах і нават на розных паверхах. Гэта не перашкаджае яму заходзіць часам у іх "жаночы" пакой з дробнымі даручэннямі ці пытаннямі накшталт "ну як тут у вас справы?" Тое ж самае, безумоўна, можна было зрабіць і па тэлефоне, але Валерый Віктаравіч (без прозвішча абыдземся) у працы карыстаецца адным залатым правілам, якое яшчэ ніколі нікога не падводзіла: будзь прасцей, і людзі да цябе пацягнуцца. Гэтак жа проста, па-сяброўску ён аднойчы запрасіў Марыну, якая затрымалася ў кабінеце з адзінай бяскрыўднай мэтай — папрацаваць, да сябе на шклянку кавы. Да сябе — безумоўна ж, не дадому. Дома Валерый Віктаравіч быў, што называецца, "абкладзены" з усіх чатырох бакоў. Справа і злева — дачка і сын, наперадзе — жонка, ззаду — цешча. Прыйшлося падняцца да яго ў кабінет "для абмеркавання аднаго пытання..."



А зараз — невялікае лірычнае адступленне. Марына — ужо не дзяўчынка ва ўсіх адносінах. Замужам ніколі не была, у выніку чаго яе дачка расце без бацькі, затое з бабуляй, Марынінай мамай. Сама Марына доўгі час камплексавала з нагоды свайго сацыяльнага статуса, пакуль нехта са знаёмых неяк не даказаў ёй, што ў наш час у сто разоў лепш быць маці-адзіночкай, чым маці-гераіняй. На рабоце ў амаль выключна жаночым калектыве яна нічым не выдзялялася. Ва ўсялякім разе, яна так лічыла. Ніколі не магла пастаяць за сябе. Заўсёды некага падмяняла, брала дадому чужую работу, хадзіла на "афіцыйныя" прыёмы і сустрэчы, калі ў сакратаркі В.В. былі больш важныя справы. Ніколі нікому не магла адмовіць, чым некаторыя з поспехам карысталіся. Увечары мама адчыняла ёй дзверы і, дапамагаючы распранацца, нязлосна выгаворвала: "Табе не надакучыла ўсё рабіць самой? Так і састарэць нядоўга. Знайшла б каго-небудзь — па бульбу ў магазін сходзіць ці дыван у хімчыстку занясе, мужчына хоць які — усё ж апора".

Яна і сама разумела, колькі праўды было ў матчыных словах. Надакучыла адзінота — пусты, халодны ложак, доўгія вечары. Надакучылі гаспадарчыя клопаты і праблемы, якія трэба было вырашаць самой. Моцныя і прыгожыя мужчыны з'яўляліся хіба што ў снах. Яны "прыходзілі" амаль кожную ноч, каб палепшыць Марыніна жыццё, перакласці на свае плечы ўвесь цяжар яе турбот, абараніць, прытуліць да сябе...

Калі В.В. запрасіў Марыну падняцца ў кабінет, яна адчула нейкае ўнутранае раздваенне. Некалькі імгненняў дзве яе паловы нібыта спрачаліся адна з адной. Першая раіла Марыне цвяроза ўсё ацаніць, узважыць і адмовіцца ад двухсэнсоўнага запрашэння. Другая... О, гэта другая палова!.. Яна прымусіла Марыну заплюшчыць вочы і ўявіць сабе ўсё, што можа "вынікаць" з гэтай шклянкі кавы. "Шэф" быў прыгожым мужчынам. Прыгожым і недасягальным. Недасягальным і жаданым. А гары ты гарам, нікому не патрэбны жаночы гонар!

...Сакратаркі, натуральна, на працоўным месцы не аказалася. Усё, што адбылося далей, Марыначка не можа ўспамінаць без з'едлівай усмешкі:"А кавы ў яго нават і не было. Гэта — як пароль, прынада для дурніц. Для прыліку ён сказаў некалькі слоў, сэнсу я ўжо не памятаю... Потым яго затрэсла, быццам наэлектрызаваўся ўвесь, скінуў свой пінжак, гальштук... Усё адбылося прама на стале, сярод нейкіх квітанцый, загадаў і справаздач. (Я потым не магла без смеху глядзець на гэты стол). За дзвярыма ўвесь час нехта хадзіў, тузалі за ручку, званіў тэлефон... Калі ўсё скончылася, Валерый Віктаравіч надзеў свой пінжак, акуратна расклаў паперы на стале, расчыніў акно, пырснуў у паветра дэзадарантам і прапанаваў мне пачакаць яго з паўгадзіны на аўтобусным прыпынку за квартал ад нашай работы. Потым ціха падышоў да дзвярэй, прыслухаўся, пацягнуў мяне за руку і літаральна выпхнуў у калідор".

Усё гэта было б вельмі смешным, калі б не было такім сумным. Так ці інакш, а Марыніна жыццё змянілася. Дадому Валерый Віктаравіч пачаў падвозіць яе на машыне, праўда, дзеля гэтага Марыначка разыгрывала цэлы спектакль: стаяла ў вызначаным месцы і старанна "галасавала". Быццам бы выпадкова побач спыняліся бэжавыя "Жыгулі". Марына для прыліку "таргавалася", і толькі пасля неабходнай паўзы садзілася ў машыну. Па дарозе заязджалі ў розныя крамы — Валерый Віктаравіч не шкадаваў грошы на Марыніны пакупкі, але з машыны стараўся не выходзіць. Калі здаралася ўсё ж паказацца разам людзям на вочы — паднесці што-небудзь цяжкае, напрыклад— увесь час азіраўся па баках, круціў галавой і вышукваў у натоўпе знаёмых, каб папярэдзіць "апазнанне" і своечасова даць задні ход. Яе гэта спачатку весяліла, потым надакучыла, пачало раздражняць. На рабоце ён перыядычна выклікаў яе ў кабінет, выключна праз сакратарку. Апошнюю папярэджваў, што з паўгадзіны будзе вельмі заняты, прасіў нікога не пускаць. Тэлефонную трубку знімаў і клаў на стол... Потым, быццам нічога не здарылася, садзіўся насупраць і пачынаў задаваць ёй пытанні, звязаныя з работай. Асабістыя адносіны ніякім чынам не ўплывалі на службовыя — наадварот. Па ўстанове папаўзлі плёткі, і В.В. у мэтах "рэабілітацыі" аб'явіў Марыначцы вымову за спазненне на работу, хоць яна і адпрасілася напярэдадні. Марына, у сваю чаргу, аб'явіла байкот і пачала ігнараваць выклікі ў кабінет. В.В. пазваніў па тэлефоне і сказаў, што яе праца не адпавядае патрабаванням кіраўніцтва і ўзроўню ўстановы. Марыначка здалася... У той вечар ён быў вельмі ласкавы, гаварыў розныя пяшчотныя словы. Прасіў прабачэння за ўсе непрыемнасці, абяцаў нават павысіць зарплату і ўвогуле павысіць. Ёй было так агідна, што хацелася плакаць. Падумаць толькі, ледзь не закахалася... Калі скончылася "абавязковая праграма", В.В., задаволены і супакоены, сеў за стол насупраць. Гэта азначала, што ён перастае быць для яе мужчынам і зноў ператвараецца ў начальніка. "Цябе падвезці дадому ці дойдзеш сама? Тут з міністэрства пазванілі, прапанавалі праз гадзіну сустрэцца, а мне яшчэ трэба дакументы ў парадак прывесці. Дык што?" Марына, як выхаваная падначаленая, ветліва ўсміхнулася:"Дайду". "Ну добра, Марына Леанідаўна, і, калі ласка, не спазніцеся з квартальнай справаздачай".

Іх адносіны працягваліся гады два. Марына, звязаная па руках і нагах мамінай пенсіяй і частымі хваробамі дачкі, наведвала абрыдлы кабінет ужо хутчэй па інерцыі, упісаўшы гэта сабе ў працоўны абавязак. В.В. з аднолькавым запалам прызнаваўся ёй у каханні і аб'яўляў вымовы...

МАГЧЫМА, калі-небудзь хто-небудзь, класіфікуючы віды чалавечых пачуццяў, вывучыць як асобную з'яву тое, што "каранаваныя" асобы мужчынскага полу лічаць чамусьці бескарыслівым і светлым пачуццём, г.зн.— каханнем. Шкада мне іх, бедненькіх. Можа, яны і мараць па начах, прыгрэўшыся ля мажнага жончынага боку, пра нешта ўзнёслае і рамантычнае. Але... Каханне, як гэта ні трывіяльна гучыць, патрабуе ахвяр. Тым большых, чым вышэй узбіраецца мужчына па службовай лесвіцы. Вельмі лёгка сказаць "я аддам табе ўсё", калі нічога не маеш. І вельмі цяжка, калі маеш, сапраўды аддаць. Тут пытанне стаіць канкрэтна: або—або. Або кар'ера, або каханне. Кожны разумны мужчына гэта ведае. Ледзь захопішся больш чым трэба нечым адным — адразу пазбаўляешся другога. І наадварот. Вельмі рэдкія мужчыны згадзіліся б ахвяраваць сваёй высокай службовай планкай дзеля сапраўднага пачуцця. І хочацца, як кажуць, і страшнавата. Таму многія, імкнучыся ўседзець адразу на двух крэслах, ідуць на паўмеры, вылучаючы даму сэрца сярод сваіх падначаленых. Заўсёды — пад рукой, заўсёды знойдзецца падстава выклікаць да сябе, і ўвогуле вельмі зручна — здымае стрэс пасля ўсялякіх міністэрскіх пасяджэнняў.

Ці ведаеце вы, мілыя мужчыны, якімі эпітэтамі ўзнагароджваюць вас вашыя абранніцы пасля свайго візіту? І як яны весела смяюцца з вас, распавядаючы лепшым сяброўкам пра ваш знешні выгляд — пры гальштуку, ці без штаноў? Яны кпяць з вашай баязлівасці, з вашай невыкаранальнай прывычкі тузаца ў бок тэлефона, калі ён звоніць "у самы разгар". Іх абражае ваш любімы "ментарскі" тон у інтымнай размове і ваша паспешлівасць там, дзе не трэба. Ім шкада вас за ваша імкненне быць добрым палюбоўнікам і пры гэтым усё ж заставацца начальнікам, не страчваць аўтарытэту... Яны ненавідзяць вас за ваша жаданне помсціць шляхам вымоў і звальненняў. Нават тут вы здольныя змяшаць у кучу асабістыя і службовыя інтарэсы. І разам з тым яны, здараецца, кахаюць вас менавіта за ўсе вышэйпералічаныя слабасці і недахопы (ці насуперак ім?), што зусім не здымае з вас адказнасці за свае далёка не мужчынскія паводзіны.

Не заставайцеся ўжо лепей "шэфам", "босам", рэктарам, дырэктарам... А калі вам і спадабаецца якая-небудзь жанчына, то проста скажыце ёй камплімент. Раніцай у панядзелак. І яна цэлы тыдзень будзе ўспамінаць вас з удзячнасцю.

Наталля СТРАЛКОВА.
Фота Аляксея МАЦЮША.

# ВОГНЕННАЯ «АДЫСЕЯ»



Кожны дзень на тэлетайп упраўлення пажарнай аховы УУС Мінскага аблвыканкама паступаюць трывожныя весткі. Асабліва абвастрылася сітуацыя з пажарамі гэтым летам. Гарэлі сховішчы і фермы, тэхніка і гаражы, лясы і тарфянікі, хлебныя нівы і кармы, гінулі людзі.

Сярод прычын пажараў часта — дзіцячае свавольства з запалкамі. З пачатку года зарэгістравана больш чым 400 такіх здарэнняў. Не абыходзіцца і без трагедый. Напрыклад, вучань сярэдняй школы № 196 г.Мінска Уладзімір Нікалайчык гасцяваў у родных на Пухаўшчыне. Калі ў рукі трапілі запалкі, ён нічога лепшага не прыдумаў, як наведаць кароўнік і паглядзець на рагуль... Ад кароўніка засталіся толькі ўспаміны.

Свой "уклад" у трывожную статыстыку "ўнеслі" і некаторыя вучні школ Маладзечна. У ліпені Сяргей Петухоў і Дзіма Рамановўскі адправіліся ў падарожжа ў суседні Валожынскі раён. Разам з імі былі і іншыя падлеткі. Сярод белага дня ўспыхнула сенасховішча ў калгасе "Чырвоны сцяг". Толькі па шчаслівай выпадковасці ўдзельнікі вогненнай адысеі не загінулі.

Каля 100 тон сена першага ўкосу не стала ў гаспадарцы. Каштоўны корм ператварыўся ў дым і попел. У той жа час тут разлічвалі, што нарыхтаванае сена забяспечыць сытную зімоўку жывёле. Пакуль работнікі міліцыі высвятляюць падрабязнасці, акалічнасці, якія прывялі да пажару.

— Шкада не толькі сена, але і карпатлівай працы хлебаробаў, — расказвае вадзіцель Валожынскай прафесіянальнай пажарнай часці В.В.Кулак. — Хоць пажар і патушылі, толькі тое сена наўрад ці будзе есці карова нават у бяскорміцу.

Між іншым, назіраць за такімі аб'ектамі трэба ноччу і днём.

1 верасня не прыйшлі на заняткі тры вучні сярэдняй школы № 2 і № 4 г.Нясвіжа. Гэта Віця Пятроўскі, Віталь Васілевіч і Міша Смірноў. Трагічна абарвалася іх жыццё на канікулах. Аб тым, што ва ўрочышчы Папова горка (недалёка ад вёскі Качановічы) існуюць падземныя хады, рабяты чулі не раз ад мясцовых жыхароў. Да таго ж калісьці тут працавалі археолагі, якія вывучалі гісторыю краю. Менавіта яны быццам закапалі ў штольню трубу паўтараметровага дыяметра, знутры якой былі прымацаваны скобы.

Аднойчы хлопцы вырашылі паспытаць шчасце першаадкрывальнікаў таямнічых хадоў. Яны прыехалі на веласіпедах і ў той жа дзень узяліся за работу. Капалі на глыбіні звыш 10 метраў. Каб пасвяціць у цемры, школьнікі выкарысталі пластмасу. Нават старэйшы Віця Пятроўскі не звярнуў увагі на тое, што пры гарэнні выдзяляюцца ядавітыя рэчывы. Юнацкія арганізмы не вытрымалі едкага дыму — усе атруціліся.

Каго вінаваціць у гэтай трагедыі? Археолагі не выканалі свой абавязак. Хіба нельга было паклапаціцца, каб засыпаць зямлёй месца раскопак?

**Фёдар САГАНОВІЧ.**





Разам з сацыяльнай напружанасцю, як заканамернасць, расце і злачыннасць, асабліва сярод дзяцей. Злачыннасць маладзее. Работа ў інспекцыі па справах непаўналетніх становіцца ўсё больш цяжкай, таму ідуць сюды па прызванню

Алена Казакова працуе ў інспекцыі па справах непаўналетніх у Першамайскім РАУС Мінска. Працуе з падлеткамі ўжо больш як шэсць год і лічыць гэта сваім прызваннем. Можа, і праўда жаночае слова хутчэй дойдзе да душы каторага хлапчука. Хоць, як ні парадаксальна, цяжэй стала працаваць з дзяўчынкамі, сярод якіх з'яўляецца ўсё больш жорсткіх і агрэсіўных.

Для многіх яе пасталелых падапечных яна надоўга застаецца добрым сябрам, які дапамог пазбегнуць ім сустрэчы з Крымінальным кодэксам.

**Фота Сяргея Брушко.**

*Інфа-крым*

## СЛУЖЫМ ДОБРА І АДПАЧЫВАЕМ НЕ ГОРШ

Было і на іх вуліцы свята. 10 лістапада ўся міліцыя рэспублікі, ды і, напэўна, СНД, адзначала сваё прафесійнае свята. Няхай яшчэ не афіцыйнае, але сваё. Супрацоўнікі Мінскай ДАІ правялі святочны вечар у актавай зале будынка гарадской аўтаінспекцыі. Прыйшлі не толькі самі супрацоўнікі, якія дзеля такой імпрэзы змянілі міліцэйскую форму на цывільныя касцюмы ды гальштукі, але і іх жонкі, дзеці, сяброўкі. Свабодных месцаў у зале не было. І гэта нядзіўна: значнай частцы прысутных уручаліся грашовыя прэміі. За што? "За сумленныя адносіны да службовых абавязкаў і з нагоды прафесійнага свята". Не забыліся і пра ветэранаў Мінскай ДАІ. Ім, а таксама іншым супрацоўнікам аб'явілі аб прысваенні чарговых і нечарговых званняў. Некаторых ветэранаў урачыста праводзілі на пенсію, пажадаўшы ўсяго найлепшага, як і павінна быць у такім выпадку.

Увогуле, свята ўдалося. Безумоўна, было не толькі прыемнае, узгадвалі і праблемы, звязаныя з будаўніцтвам новага гарадскога вучэбнага аўтадрома і іншае. Хвілінай маўчання прысутныя ўшанавалі памяць свайго таварыша, былога начальніка Мінскага ДАІ Худзеева, пахаванне якога адбылося надоечы. Напрыканцы ўрачыстай часткі свята супрацоўнікам ДАІ Рагуліну і Батанейку, а таксама іх калегам з розных РАУС Мінска страхавая кампанія "Астра-ВАЗ" уручыла імянныя гадзіннікі з надпісам: "За рашучыя дзеянні". Такую пашану гэтыя хлопцы заслужылі, бо рашуча і ўмела прымянілі зброю пры затрыманні злачынцаў.

Забаўляльная праграма вечара таксама, відаць, спадабалася ўсім. На свята былі запрошаны тэатр сатыры "Хрыстафор" і знакамітыя беларускі дуэт Я.Паплаўская і А.Ціхановіч.

**Сяргей ВІШНЕЎСКІ.**

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

## Апладысменты

З 3 па 8 лістапада на базе тэатра Я.Купалы праходзіў "Фестываль сяброў". Ладзілі спектаклі тэатр імя Венгеркі з г.Беластока (Польшча) і акадэмічны тэатр імя Я.Купалы. Два гады таму было падпісана пагадненне аб творчым супрацоўніцтве, і вось як вынік яго – сустрэча на купалаўскай сцэне польскіх і беларускіх артыстаў. Трэба нагадаць, што раней у спектаклях тэатра імя Венгеркі ўдзельнічаў наш акцёр Уладзімір Кін-Камінскі. Закрыццё "Фестывалю сяброў" адбылося прэм'ерай спектакля "Дом на мяжы" ў пастаноўцы Анджэя Якімца пры ўдзеле толькі беларускіх артыстаў. У хуткім часе на Беласточчыну адправіцца і Валерый Раеўскі, каб папрацаваць з польскімі акцёрамі.

Ёсць спадзяванні, што "Фестывалі сяброў" стануць традыцыйнымі.

* * *

9 лістапада ў рэспубліканскім Доме архітэктараў адкрыўся I Міжнародны агляд лепшых архітэктурных твораў. Свае лепшыя праекты года прадстаўляюць Беларусь, Расія, Казахстан, Украіна, Азербайджан, Санкт-Пецярбург. Створаны каардынацыйны савет, які выступае ў якасці журы. У яго склад увайшоў і старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі Яўген Кавалеўскі.

* * *

8 лістапада 1992 года Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр РБ правёў канцэрт у зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Былі выканаы творы: "Сімфонія № 4" Брукнера і "Сімфонія № 8" Шуберта. Кіраваў канцэртам малады дырыжор з Мюнхена Піера-Дамінік Папел. На канцэрце прысутнічаў пасол Германіі ў Беларусі спадар Альбрэхт, які высока ацаніў майстэрства артыстаў аркестра, сказаўшы, што аркестр адпавядае самым высокім патрабаванням еўрапейскага ўзроўню.

* * *

14 лістапада спаўняецца 180 год з дня нараджэння сялянскага паэта Паўлюка Багрыма. Рэспубліканскае свята паэзіі адбудзецца на яго радзіме ў вёсцы Крашын Баранавіцкага раёна.

* * *

За мяжой праяўляецца цікавасць да беларускай нацыянальнай культуры і мастацтва нашай рэспублікі. Па лініі Міністэрства культуры РБ за 9 месяцаў гэтага года на гастролях, стажыроўках, міжнародных фестывалях і іншых культурных мерапрыемствах пабывала больш за 2 тысячы чалавек. У верасні–кастрычніку ў Германіі выступалі студэнцкая філармонія, хор хлопчыкаў Мінскага музычнага ліцэя, ансамбль песні і танца "Радасць", ансамбль салістаў "Класік-авангард", Дзяржаўны камерны аркестр РБ. У лістападзе адбудуцца гастролі ДАВТа оперы і балета ў Бельгіі, Нідэрландах і Францыі. Звычайна ўсе паездкі аплачваюцца за кошт арганізацыі, якія запрашаюць да сябе мастацкія калектывы з Беларусі.

Майя ШЭНДРЫК,
аглядальнік
па пытаннях
культуры.

# ПРЫРЭЧЧА

## Нататкі з выставы Аляксея МАРАЧКІНА

Цячэ рака, шырокая і паўнаводная, цячэ праз лясы, палі, балоты, цячэ ў далёкае мора, якога адсюль, з Беларусі, і не відаць, цячэ, не зважаючы на межы, і робіцца ўрэшце часткай акіяна.

І не кропля, не струменьчык, не раўчук — рака цэлая ўпадае ў гэты акіян, жывіць яго і спрыяе ягонай магутнасці. Звычайная беларуская рака, з чыста беларускім водарам, прыдбаным сярод чыста беларускіх палёў і лясоў, і акіян той не грэбуе гэтай ракой, прымае яе як сваю, роўную, а не было б гэтай ракі — то мо і збяднеў бы ён на якую кроплю, не прыдбаў бы нечага такога, без чаго і акіянам лічыцца не змог бы.

Ці не гэтак, як тая рака, уліваецца ў неабсяжны акіян сусветнага мастацтва і наша, беларускае, і робіцца неад'емнай яго часткай?

Відаць, так! Але ці кожны прадстаўнік мастацтва дасягае таго сусветнага ўзроўню, які дапамагае яму не згубіцца ў шэрагу да сябе падобных? Пэўна, не кожны! Нехта так і застаецца ў Прырэччы — сярод шматлікіх раўчукоў, крынічак, прытокаў, сярод таго, што яшчэ не рака, а толькі прадчуванне яе. І для такога чалавека (здараецца, добрага і шчырага) рака — ужо мора! Як канчатковы прытулак ягоных спадзяванняў і пошукаў. І, ледзь выбіўшыся са свайго Прырэчча, бы растварaецца ў рацэ, губляецца ў ёй, так і не дасягаючы акіяна. І гэта не загана. Гэта, пэўна, лёс. І толькі тыя, хто не абмяжоўвае сваё існаванне гарызонтамі Прырэчча, дасягаюць акіяна. Але іх — адзінкі. І гэта таксама не загана. Гэта аб'ектыўны закон: жыцця і мастацтва.

Якраз во гэткія думкі выклікала ў мяне наведванне персанальнай выставы Аляксея Марачкіна, пэўна што, вядомага на Беларусі не толькі сваімі работамі, а і вельмі актыўным ўдзелам у грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. Але калі ідзе гаворка пра мастака, то мы трошкі змяняем акцэнты: важнейшым робіцца не актуальнасць ці надзённасць, а майстэрства. Талент — не заўсёды толькі надзённасць. Гэта, відаць, нешта большае.

І вельмі прыемна было пераканацца, што Аляксей Марачкін, перамогшы ў сабе ўласцівую амаль кожнаму мастаку няўпэўненасць, калі ідзе сваім, неапрабаваным дагэтуль шляхам, наблізіўся да таго ўзроўню, які, без перабольшання, можна назваць сучасным бачаннем свету.

Я знарок пачынаю гутарку якраз з такой акалічнасці, бо гэта асноўная думка, да якой прыходзіш, наведаўшы выставу (маю на ўвазе апошнія работы мастака), бо якраз яны і сведчаць пра гэты ўзровень. У першую чаргу "Вандэя" і народафронтаўскае "Без назвы" — манументальнае па значнасці палатно пра нашы пакуты, а таксама графічная серыя (папера, вугаль), зробленая раней, у 1976 годзе, — "Адбор", "Душавая", дзе мастак гаворыць сучаснай экспрэсіўнай мовай, ясна і проста, не пакідаючы чагось на потым, кажа трапна і дакладна — непатрэбнай двухсэнсавасці тут не ўзнікае, але ж не страчваецца і глыбіня — настолькі гэта прапушчана праз сябе, настолькі ён асабісты, ягоны мастакоўскі боль, які ў спалучэнні з талентам і самымі сучаснымі сродкамі выяўлення якраз і дае той вынік, які дае падставу назваць пералічаныя вышэй творы сапраўдным мастацтвам. Неабыякавым, узрушлівым. Цяжка знаходзіцца побач з гэтымі работамі, цяжка ад іх адысці, як цяжка і забыць — выкрасліць з памяці. І, нават агледзеўшы ўсю выставу і палічыўшы, што знаёмства ўжо адбылося, адчуваеш раптам, што цябе зноў цягне да гэтых работ і ты вяртаешся да іх і знаходзіш штось новае, раней незаўважанае, а хіба гэта не самае яскравае сведчанне таго, што гэта — мастацтва?!

І вельмі добра, што беларускія мастакі ў асобе Аляксея Марачкіна — на роўных! — уліваюцца ў сусветнае мастацтва, уліваюцца без скідак на тое, што мы, беларусы, — ад сахі і касы, і нічога, апроч касы і сахі, не здольныя стварыць і — адпаведна — зрабіць пэўны ўклад у скарбонку сусветнага мастацтва. Існуе ўзровень местачковы і ўзровень сусветны. Як у поглядах, так і ў майстэрстве. Местачковы Шагал здолеў узняць і давесці местачковыя трагедыі да сусветнага гучання, здолеў зрабіць іх агульначалавечымі трагедыямі — пераадолеў тую мяжу, якая спыняе чалавека ў ягоным росце. Таму і зрабіўся Шагалам, якога ведае ўвесь свет.

На маю думку, Аляксей Марачкін, маючы зусім іншы лёс і жывучы зусім у іншых абставінах, таксама здолеў пераступіць мяжу агульнабеларускай местачковасці і навучыўся гаварыць так, каб яго пачуў увесь свет. Яго зразумеюць усе, незалежна ад колеру скуры, веравызнання ці адукацыі, ягоны боль знойдзе водгук у любога жыхара нашай планеты, бо мова, на якой гаворыць Марачкін, — агульначалавечая.

Я ні ў якім разе не хачу адмаўляць іншыя яго работы, экспанаваныя на выставе. Кожная з іх мае свае каштоўнасці, і кожная з іх — нейкая прыступачка да той пляцоўкі, на якой цяпер знаходзіцца мастак. Але ў адрозненне ад вышэйпамянёных яны каштоўныя, можа, толькі для нас, беларусаў, бо там мастак глядзіць на навакольны свет яшчэ нібыта праз прызму старога ўяўлення пра беларусаў — так, як глядзелі некалі мы ўсе, — як на нацыю, якая недабрала трохі, каб зрабіцца раўнапраўнай нацыяй у супольнасці нацый і народаў. У тых работах — прыгожых і мілых — свет нашага дзяцінства, свет былой гісторыі, былога побыту — той свет, не спазнаўшы які нельга зрабіцца чалавекам, нельга спадзявацца на тое, што цябе пачуе некалі і вялікі свет.

І — дзякуй Богу! — што Аляксей Марачкін здолеў прайсці гэты пакутлівы шлях самапазнання і самавызначэння. Прырэчча, якое спыніла не аднаго мастака, не аднаго творцу, — пераадолена! Настаў час самааддачы — мастацтву, людзям, свету!

І ўжо — як маленькі прыватны прэзент — хацелася б сказаць два словы пра палатно, якое будзе жыць вечна (і гэта не проста гучныя словы!), пра "Перспектыву белага колеру" — невялічкае па памерах палатно, бадай, самае лепшае з убачанага.

Не хочацца пераказваць тое, пра што яно гаворыць, якія пачуцці выклікае. Яго лепей пaглядзець. Адно можна сказаць без усялякіх нацяжак: карціна гэта — сапраўднае свята і для мастака, і для нас — свята колеру, свята чысціні, свята абагульнення і разам з тым свята найглыбейшага пранікнення ў таямніцы колеру і таямніцы сваёй прафесіі. Гэта адкрыццё як для самога Аляксея Марачкіна, так і для нас.

Анатоль КІРВЕЛЬ.

# АБ ЧЫМ СМУТКУЕ КАРАЛЕВА?



Мінулым ужо летам у Віцебску ў так званай карціннай галерэі цэнтра культуры была паказана першая персанальная выстава 28-гадовай мастачкі Ірыны Магучай.

Акрамя некалькіх партрэтаў маладых сучасніц, нішто пра сённяшні дзень на гэтай выставе не нагадвала, ды і самі сучасніцы мастака з пастэльных партрэтаў выпраменьвалі затоены смутак ці ўзнёслае чаканне прывіднага шчасця. Адзіны мужчынскі партрэт віцебскага мастака А.Мемуса толькі падкрэсліваў сваёй прысутнасцю на выставе гэтую прыгожую настальгію жаночых твораў, бо і сам існаваў у тым жа вымярэнні, затоенага пошуку згубленага святла.

Незвычайная назва выставы "Агні карнавалу" быццам уступала ў адкрыты дыялог-паядынак з нашым цяперашнім ліхалеццем не толькі адасобленасцю мары, але найперш падкрэсленым нежаданнем адбіваць у сабе роспач разбэшчанай душы. Вернісаж быў мнагалюдным, але найперш кідалася ў вочы маладое падабенства паміж аўтаркаю і тымі, хто прыйшоў да яе. І яе, і іх яднала падкрэсленае хараство пачуцця, кожны твар быццам адбіваў у сабе рамантызм і чаканне святла, якімі поўнілася ўся выстава.

Паміж партрэтаў ды нацюрмортаў з кветкамі, у якіх тая ж засяроджанасць пачуцця, той жа знак самазгубнага хараства, асаблівы настрой выпраменьвалі пастэльныя кампазіцыі, з'яднаныя агульнай крылатасцю і пластычнай усхваляванасцю. "Жоўтая шаль", "Гайдэ", "Казкі Аджанты", "Вандроўнік", "Танец ценяў", "Агні карнавалу"...– усё як напамін, усё як папрок, як знак перасцярогі...

Героі Ірыны Магучай прыгожыя найперш гэтаю крылатасцю душы, чаканнем, ахвярнасцю дзеля шчаслівага імгнення.

"Смутак каралевы" – адна з трывожна-каларытных пастэляў, з хваляваннем рытмаў, з музыкаю лініі. Каралева і ў смутку уладарка і ў роспачы. А крылы– лініі прабягаюць па зачараваных постацях у рамах, па дрыготкіх пялёстках трывожных, як папрок, кветак, адбіваючыся на засяроджаных тварах гледачоў.

Аб чым жа смуткуе каралева?

Алесь ПРУСКІ.

НА ЗДЫМКАХ: "Смутак каралевы" (1991г.) і "Партрэт мастака А.Мемуса" (1991г.).



*ХАКЕЙ*

# ПАЧАКАЕМ ЯШЧЭ ГОД?

Што ж, прыйдзецца... Кваліфікацыйны турнір чэмпіянату свету па хакею, які даў магчымасць дзвюм з трох нацыянальных каманд-удзельніц гуляць у будучым годзе ў групе "С", закончыўся для новаспечанай зборнай Беларусі няўдачай. Зразумела, крыўдна ўдвая заставацца па-за гульнёй пры роўнай колькасці ачкоў з супернікамі, нават пры аднолькавай розніцы закінутых і прапушчаных шайб з адным з іх — зборнай Казахстана, — і толькі з-за таго, што гэтых самых закінутых шайб менш. Зрэшты, чаго і трэба было чакаць...

Прызнацца, калі стаў вядомы вынік першага матча — Казахстан—Украіна (5:4), падумаў, што Беларусі ў гэтым турніры ўжо нішто не дапаможа. Мы не мацнейшыя за ўкраінскую зборную, бо ў гэтым сезоне былі сведкамі некалькіх матчаў паміж мінскім "Дынама" і кіеўскім "Сокалам-Эскулапам", а гэта, вядома, базавыя клубы сваіх зборных. Ну, а калі казахскія хакеісты перамагаюць украінскіх...

У першым матчы нашай нацыянальнай каманды (не толькі ў турніры, але і наогул) супраць моцнай украінскай каманды гэты прагноз спраўдзіўся. І хаця на працягу першых двух перыядаў ішла барацьба на роўных, а беларускія хакеісты траплялі некалькі разоў на варотах, на жаль, што толькі па іх металічных частках, прайгралі нашы з буйным лікам. Адкрылі яго ўкраінскія хакеісты на дваццаць шостай хвіліне — Міхаіл Фадзееў рэалізаваў колькасную перавагу. Яму, а потым і яшчэ двум трапным кідкам Анатоля Сцепанішчава асісціраваў легіянер з омскага "Авангарда" і наогул лепшы хакеіст у гэтым матчы вопытны Яўген Шасцін. Яшчэ адну шайбу — другую па ліку — правёў у вароты гаспадароў пляцоўкі Вадзім Кулабухаў. За шэсць хвілін тры галы запар — і ўсе пытанні аб выхадзе зборнай Украіны ў турнір чэмпіянату свету зняты. "Маўр зрабіў сваю справу, маўр можа адысці". Удала правёўшы свае дзве сустрэчы, украінская каманда пакінула Мінск. Адзіную ж шайбу ў нашай камандзе правёў на пяцьдзесят першай мінуце Васіль Панкоў з падачы Эдуарда Занкаўца (нашы тады гулялі ў большасці). Трэнер Уладзімір Сафонаў справядліва зазначыў пасля, што нам не хапіла ў гэтай сустрэчы Шасціна і Сцепанішчава, гэта значыць сваіх сталых ігракоў. Да таго ж, і гэта таксама справядліва, падвёў варатар Леанід Фацікаў, які гуляе ў Польшчы (яго перад тым не ўдалося праверыць у гульні).

Наступны апошні матч турніру паміж зборнымі Беларусі і Казахстана, здавалася, нічым прыемным для нас не скончыцца. Зразумела, так яно і адбылося, але...

Але гэта быў, безумоўна, самы лепшы матч беларускіх хакеістаў у гэтым сезоне. Яны нарэшце здолелі запаліць прамень надзеі ў душах сваіх прыхільнікаў і пратрымаць іх ва ўзведзеным стане ўвесь матч.

Пачалі вельмі хутка і ўдала. На першай хвіліне ўжо запаліўся чырвоны агеньчык за варотамі зборнай Казахстана — шайбу закінуў Занкавец з перадачы Аляксандра Аляксеева. Дзевятая мінута стала шчаслівай для Дзмітрыя Панкова, яму асісціраваў усё той жа Занкавец. 2:0 — вынік першага перыяду. Здавалася б, яшчэ адзін трапны кідок — і задача вырашана... Трапны кідок атрымаўся ў другім перыядзе ў настырнага нападаючага зборнай Казахстана Юрыя Каратаева. Адзіную памылку за ўвесь матч дапусціў Аляксандр Гаўрылёнак.

Зноў зайграць прыгожа і вынікова нашы здолелі толькі ў трэцім перыядзе. Яшчэ адну шайбу аж ад сіняй лініі закінуў абаронца Сяргей Стась. А адной яшчэ шайбы ўсё ж не хапіла.

Вынікі турніру ўдала ахарактарызаваў генеральны сакратар ІІХФ Ян-Оке Эдвінсан: "Каманды справядліва размеркавалі месцы, але ўсе тры зборныя ўпрыгожылі б спаборніцтвы ў групе "С" і дастойныя гуляць у ёй. Розніца ў класе паміж імі складае лічаныя працэнты. Жадаю Беларусі поспеху ў наступным годзе!".

Што ж, поспеху і мы жадаем. Але хто ведае, у якім стане апынецца наша зборная праз цэлы год?..

*ГАНДБОЛ*

# СКА ПАВІНЕН ДАКАЗАЦЬ

## "СКА" (Мінск) – "Колінска Слован" (Любляна) – 24:20

Так, наш славуты мінскі клуб павінен будзе даказаць сваю перавагу над славенскай камандай у гэтую нядзелю ў Любляне. Бо першы матч на сваёй пляцоўцы, нягледзячы на перамогу, мінчане правялі няўдала. Няўдала менавіта для сябе, таму што мы прызвычаіліся да ўпэўненых і безапеляцыйных перамог армейцаў над супернікамі такога класа. Цяпер жа яны ўскладнілі сабе жыццё і, на жаль, не знялі з парадку дня пытанне: хто выйдзе ў чвэрцьфінал Кубка ІГФ? Новая задача мінскага "СКА" падобна на тую, якая была не так даўно ў "Палітэхніка" перад гульнёй у Бравграх. Дзяўчаты выканалі яе паспяхова — чарга за хлопцамі.

Мінская каманда была відавочна мацнейшай у дамашняй сустрэчы, але, як заўважыў Спартак Мірановіч, супернікі аказаліся не такімі слабымі, як хацелася б. Закінуўшы першы мяч, ігракі "Колінска Слована" трымаліся ўвесь першы тайм на роўных з гаспадарамі, якім нават прыходзілася амаль увесь час даганяць. Толькі ў канцы першай паловы армейцы здолелі выйсці наперад і закончыць тайм на сваю карысць — 13:12. Відавочна было, што другі тайм славенцы не здолеюць захаваць неабходную , для сябе мінімальную розніцу. Так і атрымалася. На тры мячы мінчан у пачатку тайма супернікі здолелі адказаць адным толькі аж на дванаццатай хвіліне. І калі ўжо здавалася, што разгром немінучы (на васемнаццатай мінуце лік быў ужо 20:14), раптам маладыя нашы гандбалісты пачалі спяшацца і атрымалі дзве выніковыя контратакі ў свой бок. Чарговае выдаленне ў складзе "Слована", здавалася б, надае шанцы выправіць становішча, але... На адзін трапны кідок Генадзя Халепы люблянцы зноў адказалі чатырма запар. 21:20 — і зноў на дваццаць шостай хвіліне ўсё не вырашана. Увесь далейшы час нашы амаль няспынна атакавалі. І, дзякуй Богу, дабіліся больш значнай перавагі ў чатыры мячы. Трапныя кідкі ўдаліся Андрэю Мінеўскаму, лепшаму бамбардзіру ў гэтым матчы Генадзю Халепу (у яго і ў Андрэя Сіняка на рахунку па пяць галоў) з сяміметровай адзнакі і Андрэю Клімаўцу з адрыву. На жаль, трапіў у штангу на апошняй хвіліне Андрэй Барбашынскі. І, безумоўна, на "выдатна" адстаяў у варотах гэтыя мінуты Іван Гарбар.



Пасля матча на здзіўленне вельмі спакойны (упэўнены, толькі звонку) Спартак Мірановіч сказаў, што як ні рыхтаваліся на апошніх трэніроўках да актыўнай абароны славенцаў, так да яе і не прызвычаіліся з-за слабай гульні задняй лініі. Наогул, тыя ігракі, якіх цяпер павінны лічыць самымі вопытнымі, не паказалі сваёй сапраўднай гульні. "Калі выйдзем у наступны круг, — дадаў настаўнік "СКА", — павінны гуляць нашмат мацней".

Зрэшты, дачакаемся нядзелі ў спадзяванні, што выйграць пяць мячоў у мінскага "СКА" вельмі цяжка любому суперніку на любой пляцоўцы.

Старонку падрыхтаваў спартыўны аглядальнік Яўген ПУЧКОЎ.

Фота Уладзіміра ІВАНОВА.

## *Лік на табло*

Мінская жаночая гандбольная каманда "Палітэхнік", якая, нагадаю, павінна будзе гуляць у 1/8 Кубка ІГФ у студзені з камандай "АЗС" (Вроцлаў), правяла "разведку боем". Наша каманда прыняла ўдзел у міжнародным турніры ў Любліне, які адбыўся ў мінулыя выхадныя. З трох матчаў – дзве перамогі: над зямлячкамі з Брэсцкага педагагічнага інстытута 44:25 і гаспадынямі пляцоўкі – клубам МКС "Монтэкс" – 21:16. Чатыры мячы (21:25) "Палітэхнік" прайграў камандзе "Скра" (Варшава), якая ў сваім нацыянальным чэмпіянаце зараз знаходзіцца на другім месцы і толькі на ачко адстае ад "АЗС". У хуткім часе трэнеры "Палітэхніка" плануюць наведаць гульні будучых саперніц і зрабіць іх відэазапіс. Такім чынам, падрыхтоўка ідзе поўным ходам.

* * *

5 лістапада адбыліся адказныя сустрэчы 1/4 футбольнага Кубка Беларусі. Вось вынікі: "КІМ" – "Металург" – 3:0, "Дынама" (Мінск) – "Лакаматыў" – 2:2, "Ведрыч" – "Камунальнік" (Пінск) – 3:1, "Днепр" – "Хімік" – 1:3. Такім чынам, у наступным годзе ў паўфінале сустрэнуцца "Хімік" з мінскім "Дынама" і "КІМ" з "Ведрычам". Мяркуючы па ўсім, калі не адбудзецца сенсацыі, пераможца ў другой пары будзе прадстаўляць Беларусь у Кубку ўладальнікаў кубкаў. Зноў жа, калі Беларусь будзе дапушчана да ўдзелу ў розыгрышы еўрапейскіх Кубкаў.

У панядзелак адбыліся два прапушчаныя матчы нацыянальнага чэмпіянату. Нечакана з буйным лікам "Будаўнік" дома перайграў "Ведрыч" – 5:0. Хет-трык на рахунку Юрыя Нікітачкіна. "Гомсельмаш" дома ўступіў "КІМу" – 1:3. Віцябчане здолелі нарэшце выйсці на трэцяе месца. А мы нарэшце здолелі прапанаваць вам выніковую табліцу першай паловы другога нацыянальнага чэмпіянату Беларусі. Вось як яна выглядае:

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама Мн | 16 | 14 | 2 | 0 | 45-8 | 30 |
| Беларусь | 16 | 10 | 3 | 3 | 27-12 | 23 |
| КІМ | 16 | 8 | 6 | 2 | 21-9 | 22 |
| Хімік | 16 | 8 | 5 | 3 | 15-15 | 21 |
| Тарпеда Мг | 16 | 6 | 8 | 2 | 21-10 | 20 |
| Дынама Бр | 16 | 7 | 5 | 4 | 19-11 | 19 |
| Днепр | 16 | 7 | 5 | 4 | 22-17 | 19 |
| Трактар | 16 | 6 | 6 | 4 | 14-6 | 18 |
| Шахцёр | 16 | 6 | 5 | 5 | 12-15 | 17 |
| Будаўнік | 16 | 5 | 3 | 8 | 13-15 | 13 |
| Гомсельмаш | 16 | 4 | 5 | 7 | 11-19 | 13 |
| Тарпеда Мн | 16 | 3 | 7 | 6 | 15-20 | 13 |
| Металург | 16 | 4 | 3 | 9 | 17-25 | 11 |
| Ведрыч | 16 | 3 | 5 | 8 | 14-31 | 11 |
| Лакаматыў | 16 | 2 | 6 | 8 | 16-24 | 10 |
| Абутнік | 16 | 2 | 4 | 10 | 9-25 | 8 |
| БелАЗ | 16 | 1 | 2 | 13 | 9-38 | 4 |

* * *

Адказную гульню ў межах розыгрышу баскетбольнага Кубка еўрапейскіх чэмпіёнак правёў мінскі "Гарызонт" у венгерскім горадзе Пёч. Нашы дзяўчаты перамаглі мясцовы ПВСК з лікам 73:60, але, на жаль, уступілі па выніках абедзвюх сустрэч. Першую, калі памятаеце, яны прайгралі на сваёй пляцоўцы – 60:78.

Дзяжурны рэдактар А. ПАЛЫНСКІ

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс на 1992 г. — 63906, на 1993 — 63129. Тыраж 17 000.



Зак. № 46.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12